

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 22 (13554)

25— 31 мая 1992 года

Цана 3 рублі.

*У нумары:*



# 1 чэрвеня – Міжнародны дзень абароны дзяцей

БЕЛАРУСКІ ДЗІЦЯЧЫ ФОНД даводзіць да ведама ўсіх, хто жадае дапамагчы хворым дзецям, сіротам, інвалідам, што Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь падтрымаў нашу прапанову і 15 мая 1992 г. даў разавы дазвол аб павелічэнні неабкладаемага падаткамі прыбытку прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый з аднаго да трох працэнтаў. Гэта рашэнне дзейнічае толькі ў другім квартале бягучага года. Запрашаем усіх нераўнадушных, каму неабыякава будучыня нашых дзяцей, адгукнуцца і падтрымаць як толькі магчыма нашы праграмы "Чарнобыль і дзеці", "Цёплы дом", "Сіроты ў сем'ях", "Сям'я", "Хуткая дапамога", "Хворыя дзеці", разлічаныя на лячэнне, аздараўленне, харчаванне і тэрміновую дапамогу дзецям, трапіўшым у бяду.

Дабрачынныя ахвяраванні прымаюцца на рахунак Беларускага дзіцячага фонду № 707801 у гарадской дырэкцыі Мінскбізнесбанка. Валютны рахунак № 000707901 у Знешэканомбанку Беларусі. Дзеці чакаюць вашай дапамогі!

## Пратэст

# ЗМАГАННЕ ДЗЕЛЯ ЗМАГАННЯ?



Галадоўкай-забастоўкай здзівіць кагосьці зараз цяжка. Як і месцам іх правядзення. Ларыса Сяргееўна Перцава і яе 73-гадовы бацька-інвалід ВАВ II групы абралі месцам галадоўкі хол Міністэрства юстыцыі. Яны галадаюць недалёка ад кабінета міністра.

Прычына: незаконнае звальненне з працы і, нягледзячы на загад міністра ў 1990 г, адмаўленне ў выплаце кампенсацыі і аднаўленні ў пасадзе.

Што гэта: пошукі справядлівасці альбо змаганне дзеля змагання? У любым выпадку вырашэнне праблемы неабходнае.

**НА ЗДЫМКУ:** Л.С.Перцава і яе бацька. Перад імі адпіскі, што атрымалі яны за 6 год змагання.

А.Куліч.
Фота аўтара.

# ПОМНІК МАКСІМУ



25 мая ў дзень 75-годдзя з дня смерці М.Багдановіча мусіла адбыцца адкрыццё помніка песняру. Для яго было абрана месца ля "Беларускай хаткі" — філіяла музея М.Багдановіча ў Мінску. Але калі я прыехала туды, то замест урачыстага адкрыцця пабачыла прыкладна такую карціну: помнік ляжыць на зямлі і марудлівыя рабочыя пакурваюць каля пад'ёмнага крана. Там жа заўважна ўсхваляваныя аўтары — скульптар Уладзімір Іванавіч Слабодчыкаў і архітэктар Уладзімір Барысавіч Зелянкевіч. Высветлілася, што падвёў мастацкі камбінат. А па вялікім рахунку вінаваты недахоп грошай у музея і ўвогуле недахоп сродкаў на культуру.

Як мне паведамілі, адкрыццё ўсё ж адбудзецца на наступны дзень.

Прабач нам, Максім... Не мы дрэнныя — жыццё такое.

В.Акуліч.
Фота аўтара.

## Юбілеі

# ЧАЦВЕР УСПАМІНАЎ

Па добрай традыцыі на літаратурны чацвер у музей Якуба Коласа сабраліся прыхільнікі творчасці песняра, яго родныя. На гэты раз тэма сустрэчы была не зусім звычайная – юбілей Ю.К.Міцкевіча, аднаго з сыноў Якуба Коласа. У першыя майскія дні яму споўнілася б 75 гадоў... Але пражыць на свеце Юрку было наканавана толькі 24 гады. Перад вайной, у 1940 годзе, ён скончыў геаграфічны факультэт БДУ і адразу ж быў прызваны ў Чырвоную Армію. Вайна застала яфрэйтара Міцкевіча ў Мінску, Юрка далучаецца да адной з часцей, якая прымала ўдзел у абароне Смаленска. Апошні ліст ад яго сям'я атрымала 20 верасня 1941 года.

Цікава пра кароткае жыццё брата расказаў заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч.

Успамінамі падзяліўся Канстанцін Аляксандравіч Самахвал.

У гэты вечар у доме Якуба Коласа гучалі творы песняра. Іх натхнёна, па-майстэрску чытала народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч. У заключэнне выступіў выканаўца аўтарскай песні, студэнт БДУ Валерый Пазнякевіч.

Вёў літаратурнае свята загадчык аддзела музея Іван Сцяпанавіч Курбека.

Л.Бяляцкая.

## Выставы

# "Я — ДРАЗДОВІЧ ЯЗЭП.."

*Людцы, дзякуй за хлеб,*
*Вы мяне шанавалі.*
*Я — Драздовіч Язэп,*
*Вы пазналі?*

Вы пазналі тога самага беларускага графіка, жывапісца, скульптара, які вучыў людзей прыгожасці, які не адно пакаленне выхаваў-вырасціў на высокіх прынцыпах сапраўднага мастацтва? Нарадзіўшыся на Віцебшчыне, ён заўсёды чэрпаў адсюль творчае натхненне. Вобраз паўночнай Беларусі яскрава паўстае ў яго графічнай серыі "Дзісеншчына" ("Вёска Лаўрынаўка", "Гараватка", "Пунькі" і інш.). У саракавыя гады стварыў жывапісныя палотны з жыцця старажытнай Полаччыны.

Людзі не засталіся ў даўгу. У вёсцы Ліпляны Глыбоцкага раёна на магіле славутага земляка стаіць помнік работы А.Шатэрніка. А нядаўна на Шаркоўшчыне, у пасёлку Германавічы, адкрыўся музей. На адкрыццё прыехалі пісьменнікі з усяе Беларусі. Музей распачынае скульптурная кампазіцыя "Вечны вандроўнік". Гэта дыпломная работа Ігара Голубева.

Уладзімір МІХНО.

## Стоп-факт

# ЧЛЕНСКІЯ БІЛЕТЫ СМБ

Як паведамляе Цэнтральны камітэт СМБ, у музейную групу пры ЦК Саюза моладзі Беларусі перададзены членскі білет гэтай маладзёжнай арганізацыі за нумарам 000001. Вучаніца СШ № 56 г.Гомеля Ліза Баравікова атрымала білет СМБ за нумарам 000002. На білеце няма былой камсамольскай сімволікі, у ім не трэба будзе адзначаць плату членскіх складкаў. А ўсяго з пачатку года ў СМБ уступіла больш за 1000 чалавек, у асноўным школьнікі. Паступова па ўсёй рэспубліцы пройдзе перарэгістрацыя членаў былога ЛКСМБ, і тыя, хто вырашыць застацца ў новай маладзёжнай арганізацыі, таксама атрымаюць новыя білеты.

## Фестывалі

# Тэатральны тыдзень у Полацку

З 25 па 30 мая ў Полацку, у Палацы культуры вытворчага аб'яднання "Шкловалакно", праходзіць тэатральны тыдзень. У ім бяруць удзел Маскоўскі тэатр клаунады і эксцэнтрыкі "Канфуз" з праграмай "Дзеці Нікуліна", узорны юнацкі тэатр-студыя "Гармонія" з двума спектаклямі для дзяцей: "Любоў да трох апельсінаў" паводле п'есы Карла Гоцы і "Жыў-быў Геракл" паводле старажытна-грэчаскай міфалогіі.

Народны тэатр "Пілігрым" з Полацка прадстаўляе пастаноўку "1937... Справа №..." паводле А. Ставіцкага. Удзельнічае ў тэатральным тыдні Мінскі тэатр песні Я. Паплаўскай і А. Ціхановіча. А завершыць гэтую цікавую імпрэзу Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, які выносіць на суд гледачоў "Тапалёвую завею".

А. Рагачоў.

# Ноты іспанскія – інструменты беларускія

Завяршыўся тыдзень Іспанскай музыкі на Беларусі. У апошні дзень фестывалю выконваўся рэквіем барселонскага кампазітара Х.Бэнгуэрэла, прысвечаны каталонскаму паэту Сальвадору Эспрыу. У выкананні твора прынялі ўдзел сімфанічны аркестр Белдзяржфілармоніі, харавая капэла імя Рыгора Шырмы, беларускія салісты Н.Руднева, В.Іанум, А.Міхайлаў, А.Снітко.

Як паведаміла дырэктарка Барселонаканцэрта сеньёра Сільвія Касэт Таліяс, выканаўчае майстэрства нашых музыкаў выдатнае, адпавядае еўрапейскаму ўзроўню і таму яна мае гонар запрасіць абодва калектывы прыняць удзел у культурнай праграме Алімпіяды.

Самі іспанцы таксама прадэманстравалі пераканаўчае майстэрства на канцэртах фартэпіяннай, гітарнай і музыкі для ўдарных. І хаця толькі мадрыдскі гітарыст Габрыэль Эстарэльяс здолеў сабраць паўнюткую залу слухачоў, на астатніх канцэртах іспанскія выканаўцы не былі пазбаўлены грому апладысментаў, мора кветак і шчырых выгукаў "брава!"

Андрэй Смірноў.

## Лесвіца ў неба

# Трамвай надзеі

У гэту нядзелю шмат каго з менчукоў і гасцей сталіцы Беларусі маглі здзівіць нечаканыя сустрэчы. Людзі ў экзатычных адзеннях спяваюць экзатычныя песні і пры гэтым вельмі горача ўсміхаюцца. Цэлы трамвай спявае Харэ Крышна махамантру, ды не толькі трамвай — метро, аўтобус, парк Чалюскінцаў...

Што гэта было?

Вайшнавы, ці крышнаіты — як іх ахрысціла КДБ. Было свята Харэнама, на якое завітаў са Злучаных Штатаў у госці па запрашэнню Мінскай Грамады Разумення Крышны гуру (духоўны настаўнік) Індрадзьюмна Свамі Махарадж.

— Я вельмі ўсцешаны, што, першы раз трапіўшы ў Мінск, бачу так шмат людзей, якія цікавяцца Разуменнем Крышны. Дарэчы, гэта нядзіўна, усё вяртаецца на кругі свая. Пры экстрэмальных тэмпературах вада ці выпараецца, ці замярзае. Пры нармальнай жа яна зноў робіцца вадкасцю — пара кандэнсуецца і лёд растае. Тое ж адбываецца і з людзьмі.

У Бібліі сказана: "Дзеці павядуць іх на нябёсы". На свяце Харэнамы дзеці прымалі самы актыўны ўдзел. Яны нават саліравалі ў вайшнаўскім хоры. Самыя маладзейшыя Баларама і Джагонатха прыехалі разам з бацькам з Чарнігава, з Украіны, каб пабачыць гуру. Яны не вучацца ў агульнай школе, аднак адукацыю для сваіх 7-8 год маюць найлепшую і здольны шляхотна адказаць на любое пытанне. Даведаўшыся, што я з газеты, Баларама звярнуўся да сваіх аднагодкаў:

— Паўтарайце, калі ласка, махамантру

*Харэ Крышна Харэ Крышна*
*Крышна Крышна Харэ Харэ*
*Харэ Рама Харэ Рама*
*Рама Рама Харэ Харэ*

— і вы будзеце шчаслівы!

Я глядзеў на карагод вайшнаваў, на танцуючых дзяцей, на гуру Індрадзьюмна Свамі Махараджа, які пасыпаў іх пялёсткамі руж, і думаў. А можа гэта праўда і ў духоўным свяце кожны крок — танец, кожнае слова — песня, кожны дзень — фэст? Што ні кажыце, а вайшнаўскі трамвай, які пракаціўся па нашым горадзе, дорыць надзею.

А пялёстак ружы я ўсё ж захаваў на шчасце.

Паўлюк Быкоўскі.



# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Жанна Анатольеўна ІВАНОЎСКАЯ, загадчык гуманітарна-эстэтычнага цэнтра "Селена" пры аб'яднанні пазашкольных установ (АПУ):*

– З кастрычніка ў СШ № 76 Савецкага раёна г.Мінска працуе наш цэнтр, створаны па ініцыятыве аддзела маладзёжных рухаў АПУ сумесна з адміністрацыяй школы. Меркавалася весці работу па трох накірунках: адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці школьнікаў праз краязнаўчы, гістарычны, фальклорны гурткі, сацыяльна-псіхалагічная адукацыя, дзейнасць секцыі журналістыкі і інфармацыі. Школа знаходзіцца ў "цяжкім" раёне горада, шмат дзяцей выхоўваецца ў няпоўных сем'ях. І таму дзейнасць гурткоў Цэнтра, навучанне ў якіх да таго ж бясплатнае, паспрыяла б паляпшэнню становішча. Але сродкаў не хапае: цяжка з афармленнем памяшканняў, з арганізацыяй паездак дзяцей па краі. Складваецца ўражанне, што дзяржаўныя структуры не зацікаўленыя ў нашай дзейнасці, жадаючых дапамагчы нам становіцца ўсё менш. Цяжка падабраць кадры. Энтузіястаў, што пойдуць працаваць з дзецьмі за мінімальную плату, вельмі мала.

Але ж намаганнямі АПУ і калектыву Цэнтра ладзіліся экскурсіі, па асабістай ініцыятыве псіхолагаў для старшакласнікаў быў прачытаны курс лекцый "Сям'я і шлюб". А кіраўнік турысцкага клуба Я.Ю.Мароз наладзіў працу з падлеткамі, якія стаяць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх.

Дзеці прывыклі, што ў школе гучыць беларуская мова. Для самых маленькіх ладзіліся фальклорныя святы "Калядры" і "Гуканне вясны", канцэрты тэатра песні.

Мы шукаем тых, хто гатовы працаваць з намі, творчых, зацікаўленых людзей. А таксама спонсараў, якія б маглі падтрымаць нашае пачынанне.

*Аляксей КРАЎЦОЎ, лейтэнант:*

– Што турбуе мяне сёння? Тое ж самае, што многіх іншых афіцэраў, лёс якіх падобны на мой. Я з сям'ёй (жонкай і двухгадовай дачкой) жывём у афіцэрскай казарме. Хто жыў там, ведае, што гэта такое. Санвузел – адзін на цэлы паверх. Нярэдка для таго, каб прыняць ванну, трэба чакаць дзве-тры гадзіны, а то і больш. На калідорах пастаянна шум, у пакоі – сырасць. З-за гэтага дачка часта хварэе. З-за такіх умоў пачаліся пастаянныя сваркі з жонкай. Сям'я на мяжы развалу. Такая ж сітуацыя, я ведаю, назіраецца і ў іншых афіцэрскіх сем'ях, якія жывуць у казармах ці вымушаны здымаць пакой за шалёныя грошы. Камандаванне на нашы прэтэнзіі толькі рукамі разводзіць: маўляў, і рады б дапамагчы, ды няма чым...

А цяпер стала яшчэ горш. У сувязі са стварэннем нацыянальнага войска над афіцэрамі навісла небяспека скарачэння. Яна пагражае практычна кожнаму, у каго няма "валасатай рукі". А калі ў цябе нацыянальнасць не беларуская, то і ўвогуле няма ніякай надзеі на тое, што гэта бяда цябе абміне. Сам я, напрыклад, па нацыянальнасці рускі. Што ж мне загадаеце рабіць? Ехаць служыць у Расію? Дык там гэтакіх, як я, і так хапае. Сябры прапаноўваюць шукаць іншую работу. А што я магу знайсці? Акрамя арміі, я нічога не ведаю і не прызнаю. Я – салдат.

*Міхаіл Паўлавіч САВІЦКІ, пенсіянер:*

– Час цяпер настаў вельмі і вельмі, мякка сказаць, нялёгкі. Палітыка перамяшалася з эканомікай, добрае з дрэнным, белае з чорным. Розныя дэмакраты, якія дарваліся да ўлады, дзякуючы Курапатам, цяпер лезуць у вялікую палітыку ці эканоміку, хоць у гэтых сферах амаль нічога не разумеюць. Цяпер вырашылі правесці нейкі рэферэндум. Дарэчы, калі збіралі подпісы за рэферэндум, да мяне прыйшоў юнак з бела-чырвона-белым значком на куртцы. Паразмаўляўшы з ім хвіліны чатыры, я зразумеў, што ён нічога не ведае пра сваю рэспубліку, акрамя лозунга "Жыве Беларусь!". Ды я і без яго ведаю, што яна жыве. Але наўрад ці выжыве яна, калі нашы паважаныя дэмакраты рыхтуюць нам такіх нашчадкаў. І за гэта балюча, вельмі балюча.

І яшчэ. Ну, правядуць яны гэты рэферэндум, ну, скінуць урад. А што далей? Што змогуць даць яны народу, калі не ведаюць не толькі законаў эканомікі і палітыкі, але не ведаюць нават гісторыі Беларусі?! Здзіўляецеся? А хто ж крычаў на ўсіх скрыжаваннях, што бела-чырвона-белы сцяг з'яўляецца беларускім? Дэмакраты. Але чаму ж яны забываліся пры гэтым пра тое, што менавіта пад гэтым сцягам тэўтонскія рыцары прыходзілі на нашу зямлю, палілі беларускія вёскі, забівалі нашых людзей, гналі іх у палон.

Вось такія "разумнікі" рвуцца да ўлады, вось такія людзі хочуць перавярнуць жыццё беларусаў. Толькі ў які бок?

# УЗБРОЕНЫЯ СІЛЫ.
## Ствараюцца і... скарачаюцца

Калі гаворка ідзе пра нацыянальнае войска, можна сцвярджаць адназначна: яго лёс турбуе ўсіх. Менавіта таму была праяўлена такая цікавасць да прэс-канферэнцыі, якая адбылася 22 мая ў акруговым Доме афіцэраў г.Мінска. На ёй міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік П.П.Казлоўскі расказаў пра работу, якая праводзіцца па стварэнню нацыянальнай арміі, адказаў на пытанні журналістаў і прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый.

Беларуская армія будзе адрозніваецца ад былой. Калі раней Беларуская ваенная акруга забяспечвалася з цэнтра, атрымліваючы адтуль неабходныя матэрыяльныя сродкі і тэхніку, то зараз усе задачы такога характару кладуцца на плечы кіраўніцтва Міністэрства абароны.

Падбор і размеркаванне і генералаў, і афіцэраў ідзе ў першую чаргу з улікам іх прафесійнай падрыхтоўкі, дзелавых якасцей. Колькасць Міністэрства абароны ў параўнанні з існуючай структурай БВА скароціцца ўжо сёння дзесьці на 15-20 працэнтаў. У перспектыве плануецца працягваць такое скарачэнне і ў бліжэйшыя гады. Так, толькі колькасць генеральскіх пасад зменшыцца на 30-40 працэнтаў.

Зараз вырашаюцца пытанні рэалізацыі канстытуцыйных патрабаванняў па нейтральнасці і бяз'ядзернасці Беларусі, пераход да абарончай ваеннай дактрыны і рэфармавання Узброеных Сіл. Галоўны змест рэформы ў тым, каб перавесці тую групоўку войск, якая знаходзіцца сёння на тэрыторыі рэспублікі і падначалена Міністэрству абароны ў меншую па колькасці, скараціўшы прыкладна на 40 працэнтаў. Новая групоўка будзе мець задачы абарончага характару, што прынцыпова зменіць назначэнне БВА, якую ва ўсе часы рыхтавалі для наступлення. У выніку армія будзе складацца з трох відаў войск, што закладзена і ў Праекце закона аб абароне: сухапутных войск, ваенна-паветраных сіл і войск супрацьпаветранай абароны. У колькасным складзе гэта будзе не больш як 95 тысяч чалавек. Гэта абумоўлена эканамічнымі магчымасцямі Беларусі і яе абарончымі запатрабаваннямі.

"Найбольш складаным пытаннем,— адзначыў П.П.Казлоўскі,— з'яўляецца скарачэнне, і ў першую чаргу — афіцэрскага саставу. У гэтым годзе плануецца скараціць 62 воінскія часці. Каля 20 тысяч афіцэраў будуць звольнены ў запас. Афіцэры, канешне, не вінаваты ў тым, што нам прыходзіцца ісці на такі крок. Таму падобныя пытанні ставяцца на дзяржаўным узроўні. Плануецца распрацаваць праграму і па будаўніцтву жылля, і па перавучванню афіцэраў, якія пойдуць у народную гаспадарку. Магчыма, будзем дапамагаць ім працаўладкоўвацца. Нельга забываць і пра маладых афіцэраў, якія заканчваюць ваенныя ўстановы. Дарэчы, толькі ў гэтым годзе ва Узброеныя Сілы прыйдзе каля трох тысяч такіх людзей. І вельмі не хацелася б пакідаць іх за бортам жыцця. Па рашэнню Саўміна ствараецца група, якая будзе распрацоўваць праграму па сацыяльнай абароне вайскоўцаў.

Цяпер па пытанню, якое цікавіць усіх вайскоўцаў: што ж будзе з тымі, хто трапіць пад скарачэнне? Тут скажу, што Вярхоўным Саветам прынята пастанова аб пенсіённым забеспячэнні вайскоўцаў. У цэлым жа працэс скарачэння плануем правесці плаўна, на працягу некалькіх гадоў".

На прэс-канферэнцыі было пастаўлена пытанне аб лёсе вайскоўцаў-беларусаў, якія служаць за межамі рэспублікі. На гэта міністр адказаў, што вядзецца вялікая работа па вяртанню іх на радзіму. З Закаўказзя, напрыклад, выведзены нашы землякі. Але не ўсе. Там на добраахвотнай аснове працягваюць службу некалькі дзесяткаў чалавек. З арміі Малдовы нашы землякі выведзены цалкам. Толькі ў Таджыкістане ёсць пагранічнікі-беларусы. Але і яны ў хуткім часе вернуцца на радзіму.

Было на канферэнцыі і такое казытлівае пытанне: калі ж міністр абароны Беларусі прыме прысягу на вернасць сваёй рэспубліцы?

"Тэкст прысягі,— адказвае Павел Паўлавіч,— павінен быць не салдацкі. Такую прысягу я, як салдат, прымаў яшчэ ў 61-м годзе. Калі Вярхоўны Савет распрацуе спецыяльную прысягу, то я яе прыму абавязкова".

Вельмі зацікавіла прысутных пытанне аб лёсе ваеннай маёмасці. Выявілася, што частка маёмасці будзе рэалізавана ў народную гаспадарку Беларусі. "За кошт гэтага мы хочам вырашыць пытанні сацыяльнай абароны вайскоўцаў".Стратэгічныя ядзерныя сілы з рэспублікі выводзяцца. Колькасць танкаў будзе скарочана таксама. "Па сённяшняй сітуацыі вялікія танкавыя групоўкі, тым больш у нашай балоцістай мясцовасці, не патрэбны". У беларускай арміі плануецца сфарміраваць неабцяжараныя механізаваныя брыгады, якія будуць мець вялікую агнявую моц і манеўранасць. Пакуль што няма такіх распрацовак, каб прыстасаваць танкі для выкарыстання іх у народнай гаспадарцы. А таму лішак танкаў будзе... пераплаўляцца на нашых беларускіх металургічных заводах.

Частка ваенных палігонаў таксама знойдзе сабе новых гаспадароў. Разглядаецца неабходнасць многіх вучэбных палёў. Безумоўна, колькасць іх будзе скарочана. Непатрэбныя прададзім для выкарыстання ў народнай гаспадарцы. А вось што будзе з палігонамі, размешчанымі вельмі блізка ад Мінска — ва Уруччы і Калодзішчах?

На гэта П.П.Казлоўскі адказаў: "Тут стаіць 120-я мотастралковая дывізія імя Вярхоўнага Савета. І таму нельга не мець пад рукой вучэбнага цэнтра. Бо, калі вазіць цэлую дывізію за 60 вёрст на Барысаўскі палігон, то 120-я па свайму кошту стане "залатой".

Што ж. На паперы нацыянальная армія ўжо амаль сфарміравана. Застаецца самае галоўнае: перанесці ўсё гэта на жывых людзей.

Франц Лявіцкі.



# Беларускае войска. Погляд БЗВ

У вайсковых калектывах былой Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі Беларускаму згуртаванню вайскоўцаў створаны пэўны нацыяналістычны імідж. Кансерватыўны вайсковы арганізм нават і сёння ўпарта супраціўляецца працэсу беларусізацыі. Ён зацята ігнаруе ўсялякія выразныя праявы нацыянальнай самасвядомасці. Пра гэта, у прыватнасці, і вялася гаворка на нядаўняй прэс-канферэнцыі, удзел у якой узялі кіраўнік БЗВ падпалкоўнік Мікола Статкевіч, актывісты арганізацыі.

Пакрысе ствараюцца новыя Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь. Але ўсё ж складваецца ўражанне, што маюць яны колішні, дэнацыяналізаваны твар. Ці не таму адзін з ваенных журналістаў, ахрысціўшы БЗВ як палітычную арганізацыю, ледзьве не заганнымі вызначыў клопаты згуртавання пра прыняцце новай прысягі, пра паслядоўнае пашырэнне асяродкаў беларускай мовы ў войску.

Мікола Статкевіч адказаў на гэткае ўпіканне БЗВ наступным чынам:

– Клопаты пра прысягу свайму народу, пра вяртанне беларусаў да роднай мовы – найперш дзяржаўныя пытанні, а не палітычныя.

Намеснік старшыні БЗВ палкоўнік Уладзімір Савянок на ўзгаданай прэс-канферэнцыі асаблівую ўвагу звярнуў на факты карупцыі ў войску. Ён пазнаёміў прысутных з афіцыйнымі паперамі, якія сведчаць пра раскраданне дзяржаўнай маёмасці на суму, што і па сённяшнім часе ўражвае. Сотнямі тысяч, мільёнамі рублёў вызначаецца яна.

– Што ж датычыць ваеннай пракуратуры,– заўважыў палкоўнік У. Савянок,– то ў нас з імі кантакт не ладзіцца, на вялікі жаль.

Пра тое, якую працу вядзе БЗВ сярод дапрызыўнай моладзі, расказаў маёр запасу Алесь Станкевіч. Зараз арганізацыя праводзіць так званую акцыю патрыятызму. Яе задачы – як мага шырэй азнаёміць школьнікаў, моладзь са старонкамі вайсковай гісторыі Беларусі, выхоўваць у юнакоў пачуццё адказнасці за лёс сваёй Айчыны.

Першы крок ужо зроблены. Шэраг рэспубліканскіх газет надрукавалі кароткі агляд вайсковай гісторыі Беларусі "Забытая слава".

Але ж важна, каб і гісторыя, і ўвогуле нацыянальнае патрыятычнае выхаванне як мага шырэй дакрануліся непасрэдна вайсковых калектываў. Такога ж, на вялікі жаль, пакуль не адбылося. І калі адбудзецца – невядома. Пакуль на справе мала што робіцца. Як, дарэчы, і на паперы. Прадстаўнікамі БЗВ распрацаваны праекты праграмы гуманітарнай падрыхтоўкі для войска. Пытанні, тэмы складзены з улікам беларускай гісторыі. Не ж, у воінскіх калектывах вывучаюць усё, што тычыцца расійскай воінскай славы. Чаму так?.. Відаць, яшчэ і таму, што на тэрыторыі Беларусі сярод афіцэраў служыць усяго толькі дваццаць працэнтаў беларусаў. Але і гэта сіла немалая, былі б вось яны беларусамі не толькі па пашпарту.

*Падводзячы вынікі прэс-канферэнцыі, падпалкоўнік Мікола Статкевіч заўважыў:*

– Наш рух ніколі не ставіў задачу зрабіць нешта толькі ў войску. Мы дбаем пра ўсю Беларусь... Армія ствараецца дзеля народа, а ўжо пасля народ клапоціцца пра армію.

Алесь Карлюкевіч.

*Даведнік "ПАС": суполкі і лідэры*

# Асацыяцыя воінаў-інтэрнацыяналістаў Рэспублікі Беларусь

утварылася ў красавіку 1990 года. На той момант ужо існавала некалькі падобных арганізацый: Саюз ветэранаў Афганістана, Усесаюзная арганізацыя, што мела 14 заснавальнікаў – міністэрствы і ведамствы. Была распаўсюджана дырэктыва камандуючага сухапутнымі войскамі генерала Варэннікава аб стварэнні філіялаў Саюза ветэранаў Афганістана. Але Асацыяцыя, тады яшчэ гарадская, Мінская, вырашыла пайсці сваім шляхам: не адмаўляючыся ад супрацоўніцтва з іншымі зацікаўленымі арганізацыямі, абрала для сябе незалежнасць і самастойнасць. Асацыяцыя не мела іншых заснавальнікаў, акрамя 202 чалавек, што прысутнічалі на ўстаноўчай канферэнцыі ў Барысаве.

У адрозненне ад шмат якіх іншых грамадскіх аб'яднанняў, што з'яўляюцца хутчэй "згуртаваннямі па інтарэсах", Асацыяцыя лічыць сваёй самай галоўнай задачай адстойванне правоў сваіх удзельнікаў, дапамогу сем'ям загінуўшых, памёршых ад ран і хвароб, інвалідам, удзел у праграмах па іх медыцынскай і сацыяльна-працоўнай рэабілітацыі. У Асацыяцыі бяруць удзел як асобныя людзі, так і цэлыя арганізацыі. Асацыяцыя зарэгістравалася як рэспубліканская грамадская арганізацыя. Яе структуры дзейнічаюць у большасці абласных і раённых цэнтраў Беларусі.

Прадстаўляем аднаго з лідэраў згуртавання. Знаёмцеся – Бацян Юры, намеснік старшыні Асацыяцыі воінаў-інтэрнацыяналістаў Рэспублікі Беларусь. Па адукацыі – юрыст, 29 год, жанаты.

**– Вам не здаецца, што афганская тэма зараз стала нявыгаднай для ўсіх, хто яе старанна намагаецца "закрыць"?**

— Што датычыць адносін да нашага руху ў рэспубліцы, то нас усіх высока ўзнеслі над зямлёю, але затым рэзка кінулі, а зараз спрабуюць дабіць нагамі. Днямі мне сказалі, што Афганістан быў, прайшоў і забудзецца, але я не згодны. Гэта гісторыя 25 тысяч чалавек, якія праз гэта прайшлі, а, гісторыю забываць нельга. Стаўленне да гэтай тэмы найбольш яскрава паказвае камень, што стаіць дагэтуль на месцы, дзе мяркуецца ўзвесці помнік. Было шмат размоў наконт абранага для яго месца: гэта востраў на Свіслачы, у раёне Троіцкага прадмесця. Былі адмоўныя водгукі прэсы. Але помнік будзе стаяць там: ёсць рашэнне гарвыканкама, у Саўміне абмяркоўваецца пытанне аб выдзяленні пэўнай сумы з былой партыйнай казны. Быў адкрыты рахунак, і вялікі дзякуй усім, хто пералічваў на яго сродкі. Зараз мы прыйшлі да згоды з Саюзам моладзі Беларусі, што заказчыкам помніка будзе наша Асацыяцыя, хоць, канешне, такія помнікі павінны будавацца на грошы дзяржавы.

Таксама павінна быць прынята дзяржаўная праграма, прычым, не на пэўны перыяд, а доўгатэрміновая. Тут трэба выходзіць ужо на Закон пра ўдзельнікаў войнаў. Будзем, аднак, спадзявацца, што помнік на Свіслачы стане помнікам апошнім ахвярам апошняй вайны.

**– Якую работу праводзіць Асацыяцыя?**

— Мы не намагаемся моцна афішаваць сваю дзейнасць. Правесці буйное мерапрыемства куды лягчэй, вядома, чым рабіць скрупулёзную штодзённую працу. Мы не просім міласціны ў дзяржавы, хочам працаваць і зарабляць самі. Але Асацыяцыя абкладаецца падаткам. Шэраг арганізацый пазбавілі ад падатку мясцовыя ўлады. Прадпрыемствы, на якіх працуе не меней за 70 працэнтаў воінаў-інтэрнацыяналістаў, пазбаўлены ад падаткаў, але ж гэта проста смешна. Але чаму могуць не абкладаць падаткам на дабавачную вартасць творчыя саюзы, а нас — не. Нам кажуць: чаму мы хочам "выехаць" за кошт дзяржавы. Але ж гэта — наш даўжнік, і яна павінна ўзяць на сябе клопат пра ўдзельнікаў вайны.

Зараз мы працуем сумесна з Камітэтам пры Савеце кіраўнікоў дзяржаў па зборы інфармацыі аб прапаўшых без вестак, а толькі беларускіх грамадзян такіх — 12 чалавек. Засталіся бацькі, дзеці тых, хто загінуў, іхнія ўдовы. Самі мы ніколі не вырашым гэтыя праблемы, мы можам толькі дапамагчы дзяржаве. Напрыклад, 54 чалавекі выехалі на пратэзаванне на Кубу, каля 80 дзяцей нашых воінаў, дзяцей, што пацярпелі ад Чарнобыля, выязджалі на аздараўленне, і мы дзякуем фонду Чарнобыля і іншым арганізацыям, што нам дапамагалі.

На выбарах мы будзем вылучаць дэпутатаў, змагацца праз Саветы за свае правы. Мы і зараз працуем з Камісіяй Вярхоўнага Савета па справах моладзі, з Дзяржкампрацы.

**– Ці існуе супрацьдзеянне вашай арганізацыі?**

— Так. Напрыклад, у Брэсцкай вобласці ў адказ на наш зварот прыходзяць два адказы за подпісам намеснікаў старшыні выканкама з прамежкам у два дні: першы — за, другі — супраць. У Нясвіжы гарвыканкам дае нам памяшканне пад стаматалагічны кабінет, а райвыканкам адмяняе гэта рашэнне. Існуюць нарматыўныя дакументы па льготах, але начальнік аддзела сацыяльнага забеспячэння Віцебскага аблвыканкама прапануе іншы варыянт, што нават пагаршае існаваўшыя раней умовы.

Я лічу, што ворагаў у нас няма. Ворагі тыя, хто апаганіў помнік у Брэсце, абліў шыльду на помніку ў Мінску.

**– Вашыя планы на далейшае.**

— Працягваць распачатую дзейнасць, у тым ліку і на дзяржаўным узроўні. Дапамагаць тым, хто мае ў гэтым патрэбу.

А.ВОЛІЧ.

«ПАС» падрыхтавала Алена АГІБАЛАВА, рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі, тэл. 39-87-94.



# Канверсія: рэальнасць і перспектывы

Абарончы сектар усё яшчэ займае асаблівае месца ў сістэме былой савецкай эканомікі. Дастаткова сказаць, што гадавыя выдаткі на абаронныя патрэбы складаюць каля 200 мільярдаў рублёў (даныя па СНД), г.зн. больш як 25 працэнтаў валавога нацыянальнага прадукту. Справа не толькі ў колькасным баку. Яшчэ больш важны якасны аспект праблемы. Кіруемы спецыяльнай Дзяржаўнай Камісіяй, ваеннапрамысловы комплекс у першую чаргу і часта на шкоду грамадзянскім галінам забяспечваўся энергіяй, сыравінай і высокакваліфікаванай працоўнай сілай. Да таго ж, *тут* была сканцэнтравана значная частка навукова-даследчых арганізацый. З 1,5 мільёна, занятых у прыродазнаўча-навуковых даследаваннях, ад 70 да 80 працэнтаў прыпадала на ВПК. Амаль усе лепшыя распрацоўкі ў сферы мікраэлектронікі, сучасных камунікацыйных, інфармацыйных, энергаашчадных тэхналогій, новых матэрыялаў былі сканцэнтраваны ў дадзеным сектары, і перадаваліся ў звычайныя галіны толькі ў парадку выключэння, альбо праз шмат гадоў. Такім чынам, у адрозненне ад ЗША, грамадзянскі сектар эканомікі СССР не атрымліваў ад ВПК практычна ніякага імпульсу. Адцягваючы на сябе значныя рэсурсы, апошні, бясспрэчна, нясе сваю долю віны і адказнасці за глыбокі эканамічны крызіс. У той жа час трэба падкрэсліць, што вялізны патэнцыял ВПК мог бы быць выкарыстаны для павышэння эфектыўнасці народнай гаспадаркі. Ужо некалькі гадоў робяцца спробы пераарыентаваць абаронныя прадпрыемствы на вытворчасць грамадзянскай прадукцыі.

У рамках канверсіі неабходна адрозніваць два працэсы: папершае, выкарыстанне ў грамадзянскіх мэтах ваенных прыбораў і прыстасаванняў, па-другое, перавод, перапрафіляванне зваротных вытворчых магутнасцей на выпуск спажывецкіх тавараў. Асабліва добра было б выкарыстоўваць у народнай гаспадарцы армейскія сродкі транспарту і сувязі, паветранай разведкі (напрыклад, пры метэаралагічных і прыродаахоўных даследаваннях), ваенна-марскія гавані, выпрабавальныя палігоны, аэрадромы і г.д.

Пры канверсіі ваеннага патэнцыялу трэба звяртаць увагу не толькі на тэхналагічны, але і эканамічны аспект праблем. Перш за ўсё неабходны новыя каналы размеркавання рэсурсаў, сувязей паміж пастаўшчыкамі і спажыўцамі, якія адсутнічаюць з-за ізаляцыі абарончага сектара ад грамадзянскіх галін, што захоўваецца па сённяшні дзень. З гэтага пункту гледжання больш мэтазгодна наогул спыніць ваенную вытворчасць на асобных прадпрыемствах, а вызваленыя рэсурсы, работнікаў, матэрыялы пераводзіць на грамадзянскія прадпрыемствы. Паколькі ўмовы працы, заработная плата ў абароннай індустрыі лепшыя, чым у грамадзянскіх галінах, неабходна зыходзіць з таго, што работнікам першага сектара будзе неабходна кампенсацыя. Канверсія народзіць асабліва вострыя сацыяльна-эканамічныя праблемы ў раёнах высокай канцэнтрацыі абаронных прадпрыемстваў, перш за ўсё на Урале, Украіне, у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Ніжнім Ноўгарадзе, Мінску. Але яна можа і адрадзіць паміраючую эканоміку нашай краіны. Ужо цяпер на Беларусі шматлікія прадпрыемствы абароннай накіраванасці рыхтуюцца да выпуску альбо ўжо выпускаюць камп'ютэры, АТС, тэлефоны, факсы, электрапрасы і г.д. Адно шкада: працэс гэты ідзе даволі марудна. Ад ВПК, з яго магутным патэнцыялам можна чакаць значна большага.

По матэрыялах БДВ.

*Вострая сітуацыя*

# Надрукуем — будзем ездзіць?

**Дапусцім, што вы – аўтаамматар і проста любіце хуткую язду на добрым аўтамабілі па гладкай і роўнай стужцы шашы! Што ж, гэта вартае захапленне для дзелавога чалавека, праўда, і не самае бяскрыўднае ў наш час. Як кажуць, былі б пад рукой колы: канешне, лепш уласная, але на крайні выпадак добра і службовая машына. Сядай за руль, заводзь матор і – каці сабе з ветрыкам куды душа пажадае! Калі, зразумела, яшчэ і маеш у кішэні вадзіцельскае пасведчанне. А калі яго няма, ды не прызнаеш курсы ў былым ДТСААФе ці ДАІ – тады што рабіць? Адказ на гэтыя пытанні вы знойдзеце, прачытаўшы гэтую амаль крымінальную гісторыю пра сучасных нашчадкаў Астапа Бэндара.**

...За сто з нечым кіламетраў ад Кіева размешчаны дзіўны горад абласнога маштабу, у якім нарадзіўся і вырас аўтар гэтых радкоў. Папулярны артыст савецкай эстрады Г.Хазанаў у свой час у адной са сваіх інтэрмедый назваў яго пяшчотна — Рыо-дэ-Жытомір. Дык вось, менавіта сюды гадоў шэсць таму прывялі з Беларусі шляхі-дарогі грамадзяніна В.Бунаса. А прыехаў ён з канкрэтнай мэтай — набыць недарагі відэамагнітафон. У рэстаране цэнтральнай гасцініцы, як часта бывае ў чужым горадзе, пазнаёміўся з двума маладымі людзьмі (назавём іх Сержуком і Васілём). Пад час багатага застолля яны разгаварыліся, і госць падзяліўся сваімі жыццёвымі праблемамі. Між справай Вячаслаў Фёдаравіч паскардзіўся на тое, што хутка падыходзіць чарга на набыццё аўтамабіля, а вадзіцельскага пасведчання ў яго і няма...

— Што ж, можам дапамагчы тваёй бядзе,— пасля багатага пачастунку сказалі новыя знаёмыя.— Толькі спатрэбяцца 200 рублёў і фотаздымак. Зробім такія правы, што толькі здзівішся!

З гадамі гісторыя з набыццём вадзіцельскага пасведчання забывалася, бо жытамірчане зрабілі Бунасу выдатнае пасведчанне, і пячатка была як сапраўдная, сумненняў ні ў кага не выклікала. Таму ён ахвотна аддаў дзвесце рублёў і падзякаваў новым сябрам. А праз два гады нарэшце падышла доўгачаканая чарга на "Запарожац" — шматтысячная армія аўтамабілістаў краіны папоўнілася яшчэ адным аўтаўласнікам. Вадзіцельскае пасведчанне ў Вячаслава Фёдаравіча даўно чакала гэтай падзеі і ён адразу ж сеў за руль. А то, маўляў, хадзі там на нейкія курсы, вывучай правілы, потым здавай экзамены суровай камісіі, колькі часу марнуецца...

Бунасу здавалася: нішто ўжо не здолее азмрочыць ягонай радасці. Але раптам усё нечакана сапсавалася, калі ў канцы студзеня інспектар ДАІ звярнуў асаблівую ўвагу на ягоныя дакументы і адправіў іх на праверку ў лабараторыю...

У падобнай сітуацыі некалькі гадоў таму апынуўся і грамадзянін Л.Бандарэнка. Аднак лепей прадаставім слова яму самому і звернемся да тлумачальнай запіскі, напісанай на імя пракурора:

"Спачатку я ездзіў на машыне брата (набыў у 1988 г.). Калі з'явілася неабходнасць у вадзіцельскім пасведчанні, я вырашыў, каб скараціць час на атрыманне новых правоў і адкрыццё катэгорыі "В", набыць іх.

Вадзіцельскае пасведчанне набыў на Камароўскім рынку г.Мінска за 200 рублёў у чалавека паўднёвай нацыянальнасці.

Пры набыцці вадзіцельскага пасведчання мяне запэўнілі, што яно зарэгістравана ў органах ДАІ г.Адэсы, і я ездзіў з упэўненасцю, што ў мяне сапраўдныя правы.

Калі я праязджаў ля паста ДАІ па Магілёўскай шашы, мяне спынілі і пры праверцы высветлілася, што пасведчанне ў мяне падробленае".

Даволі цікавае тлумачэнне для сталага чалавека, ці не так? Гэта ж паглядзіце, як несумленна абышоўся з ім "паўднёвы" чалавек з рынку! Сказаў, што прадае дакументы сапраўдныя, а на справе ўзяў ды ашукаў...

Яшчэ далей двух папярэдніх герояў майго аповеду пайшоў спадар П.Галачкін. Яшчэ ў 1987 годзе ён загадзя набыў сабе вадзіцельскае пасведчанне ў Магілёўскай вобласці па зусім умераным (для таго часу — заўв. аўтара) кошту замест былога, якое ён згубіў. А таму, што свайго аўтамабіля ён не меў, то ўсе гэтыя гады спакойна катаўся на чужым. Гэтак жа нават лепей — менш клопатаў і перажыванняў за машыну, ды і на паліве многа эканоміцца.

Усё б і надалей так працягвалася, каб не прыкры інцыдэнт з супрацоўнікамі ДАІ. Неяк ноччу яны затрымалі Галачкіна за кіраванне транспартным сродкам у нецвярозым стане. Вось як ён сам растлумачыў гэты выпадак. Напярэдадні, маўляў, дапамагаў суседу рамантаваць машыну. Пасля працы крыху выпілі, каб абмыць паспяховы рамонт. Потым селі і паехалі крыху пакатацца... Дарэчы, затрымалі сяброў каля дзвюх гадзін ночы. Гэтая акалічнасць, відаць, засцерагла няўдалага вадзіцеля ад магчымых наступстваў. Добра, што ў такі час трасы звычайна пустынныя.

Фінал гэтай начной вандроўкі быў заканамерны — канфіскацыя падробленых дакументаў. Аналагічныя непрыемнасці напаткалі і двух іншых герояў — В.Бунаса і Л.Бандарэнку.

Добрая парада пад канец: жадаеце стаць аўтааматарам — не толькі станьце ў чаргу на набыццё, але і дачасна паклапаціцеся пра вадзіцельскае пасведчанне. Праўда, які з двух магчымых шляхоў выбраць — вырашайце самі. Толькі папярэджваем: сучасныя нашчадкі Астапа Бэндара не дрэмлюць, заўсёды гатовы падпільноўваць даверлівых прастакоў на рынках многіх гарадоў, чуйна ўлоўліваючы сённяшні попыт і кан'юнктуру рынку. Так, напрыклад, зараз вадзіцельскія правы на шырока вядомым у СНД Камароўскім рынку каштуюць 1000-1550 "драўляных", у Маскве ж просяць — 800-1000, а ў Новасібірску — шмат танней — усяго за 500-800 "парваных" вам зробяць выдатнае пасведчанне. Вось, праўда, ездзіць з ім вельмі рызыкоўна, асабліва на ўласным аўтамабілі. І будзьце асабліва пільныя з так званымі "паўднёвымі" гасцямі, якія прапаноўваюць правы з пячаткай Адэсы-мамы. Абрэдуць вас вакол пальца! Ужо лепей набывайце, калі так ужо патрэбна, дакументы, выраблены ў любым іншым месцы — у Бярдзічаве, Амерыцы, Чыце ці Тырлаўцы...

Аляксей Безвясельны.



*Стоп-факт*

## Не да святаў

Цяпер, калі інфляцыйныя працэсы бяруць людзей за горла, карыстацца паслугамі міжгародніх аўтобусаў пасля шалёнага павышэння кошту квіткоў стала вельмі небяспечна.

Жыхар горада Віцебска Р. Раманаў, які вырашыў з'ездзіць са сваёй сям'ёй на свята ў Мінск, у госці, ледзь апрытомнеў, даведаўшыся, што такое "задавальненне" будзе каштаваць больш за тысячу рублёў.

Мо і не давялося б яму пасля паездкі звяртацца да псіхіятра, калі б не ўявіў, што за такія грошы павінна быць і абслугоўванне на самым вышэйшым узроўні. Але ж небараку нават не прадаставілі "сядзячага" месца ў аўтобусе...

## А сала з'елі

Жыхарка г.п. Руба Нікалаева М.А., прачытаўшы аб'яву аб тым, што калгас "Перамога" Віцебскага раёна прымае ад насельніцтва свіней, вырашыла прадаць свайго парсюка. Усё было б добра, калі б галоўны ўрач калгаса Уткевіч не аформіў яго як кныра (удвая меншы кошт).

Зараз пакрыўджаная гаспадыня спрабуе праз суд даказаць адсутнасць асемяняючых здольнасцей у свайго парсюка. А як дакажаш, калі сала, як высветлілася, з'елі ўжо.

А. Камар.

## "ПЕПСІ-КОЛА" ВЫБІРАЕ БЕЛАРУСЬ

На Беларусі створана унікальнае сумеснае беларуска-амерыканскае прадпрыемства "БЕЛПАК". Агульны кошт гэтага праекта — 100 млн. даляраў ЗША. Займацца яно будзе вытворчасцю пластыкавых бутэлек для прахладжальных напояў. Заснавальнікамі "БЕЛПАКа" сталі такія кампаніі як: "Пепсі-Кола Інтэрнэшнл", "Істмэн Кэмікл Компані", "Хімвалакно", МПА шаўковых тканін. Здаецца, справа зрушылася, пачаўся прыток замежнага капіталу ў Беларусь?





# АГОНЬ ад Труны Боскай





Нязгасная лампада, якую запалілі ад агню каля Труны Боскай у Іерусаліме, прыйшла на Беларусь. Падзея гэтая была прымеркавана да Свята славянскай пісьменнасці. Шлях агню пралягаў праз Турцыю, Балгарыю, Чэха-Славакію, Украіну. Ад плошчы Незалежнасці людзі ідуць да Свята-Духавага кафедральнага сабора.

У ім запальваюцца свечкі ад агню нязгаснай лампады, людзі запальваюць свае свечкі, каб аднесці частку агню ў свае дамы. Хрэсны ход прайшоў у выхадныя дні ва ўсіх прыходах Беларусі.

Фота Сяргея Брушко.







**Журналістам нячаста выпадае пісаць пра сябе, пра сваю прафесію. Але журналістыку невыпадкова называюць чацвёртай уладай. І асабліва ў наш кантраверсійны час шмат што залежыць ад пазіцыі прэсы, ад магчымасці свабодна абменьвацца думкамі дзеля пошуку найбольш аптымальных шляхоў развіцця. З гэтай нагоды нельга абысці ўвагай семінар маладых журналістаў Літвы, Украіны і Беларусі, які на пачатку травеня арганізаваў у Варшаве міжнародны Фонд дэмакратычнага цэнтра Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. На гэты семінар былі запрошаны і нашыя карэспандэнты.**

# БУДНІ ЧАЦВЁРТАЙ УЛАДЫ

У беларускую групу ўвайшло сем чалавек: мы, карэспандэнты "Чырвонай змены", што ніжэй падпісаліся, журналістка часопіса "Парус" Дзіна Міна, адказны сакратар гродзенскай газеты "Маладзёжны кур'ер" Сяржук Лаўнік і былы журналіст "Навінаў БНФ", а цяпер фотакар "ЛіМа" Уладзімір Панада, здымкі якога ўпрыгожылі і наш рэпартаж. Здаецца, не названымі засталіся яшчэ двое. Так, сапраўды, арганізатары семінара запрасілі і двух прадстаўнікоў Задзіночання беларускіх студэнтаў, якія выдаюць часопіс "Студэнцкая думка". Але нам не пашчасціла пазнаёміцца з імі бліжэй, бо яны прыехалі крыху пазней, дый пасля мала ўвагі ўдзялялі не толькі афіцыйным мерапрыемствам семінара, але і сяброўскім сустрэчам за сталом.

У Варшаву мы ехалі з Менску праз... Гародню. І не толькі таму, што гэты кружны шлях аказаўся на пяток даляраў таннейшы за прамы, не толькі з прычыны пражывання ў Гародні аднаго з нашых калегаў, але і таму, што, бываючы ў Польшчы, сапраўдны беларус не можа аб'ехаць беларусаў Беласточчыны.

Спатканні нашыя пачаліся ў рэдакцыі беластоцкага тыднёвіка "Ніва", дзе нас прывітаў і сам рэдактар Віталь Луба, і журналісты газеты. Адна з іх, Міра Лукша, пасля смачнай вячэры і духмянай кітайскай гарбаты ўладкавала ўсю групу на начлег.

Але чытачы, пэўна, разумеюць, што гарбата лепей успрымаецца на смак, чым на слых, таму зручней распавесці цяпер крыху пра праблемы, што ўзніклі ў беларускім жыцці на Беласточчыне. Мы ведаем, што выданне беларускіх газет і часопісаў нават *на радзіме натыкаецца на вялікія цяжкасці,* а што ўжо казаць пра замежную Беларусь? Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству (БГКТ), афіцыйнаму выдаўцу "Нівы", апошнім часам чамусьці стала недаспадобы тая пазіцыя і тыя думкі, што выказвалі журналісты штотыднёвіка. На наш погляд, канфлікт заключаецца ў розным стаўленні да прэсы: БГКТ хацеў мець з "Нівы" ўласны паслухмяны орган, а журналісты прэтэндавалі на свабоднае выказванне думак. У рэшце рэшт "Ніва" вырашыла цалкам выйсці з-пад апекі БГКТ, якое ў адплату забрала ўсе выдавецкія камп'ютэры. На сённяшні дзень журналісты пастаўлены ў даволі складаную фінансавую сітуацыю. Працы вельмі шмат, але агульны настрой у рэдакцыі пераконвае ў тым, што ў беларусаў Беласточчыны будзе незалежная газета. Беларускасць усюды трымаецца на энтузіязме і самаахвярнасці. І гэта быў першы ўрок для нас, не запланаваны арганізатарамі семінара, але за які мы ім вельмі ўдзячныя.

Варшава сустрэла нас добрым травеньскім надвор'ем і квеценню зеляніны, якой мы яшчэ не бачылі, ад'язджаючы з Беларусі. Але больш нас уразіла не гэта, а праграма, падрыхтаваная арганізатарамі семінара, план якой мы атрымалі адразу пасля прыезду. Высокі ўзровень мерапрыемства адчуўся ўжо тады, калі пасля доўгай дарогі мы змаглі прыняць душ і адпачыць ва ўтульных нумарах дома студэнтаў "Рыўера". Дый сам семінар прадугледжваў сустрэчы на ўзроўні не студэнцкай і шматтыражнай прэсы, а, бадай, на вышэйшым узроўні чацвёртай улады: дырэктар прэс-бюро Польскага ўрада Збігнеў Рыкоўскі, шэраг спецыялістаў у галіне выдавання, распаўсюджвання і рэкламы найбольш папулярнай у Польшчы "Газэты Выборчай", галоўны рэдактар урадавай газеты "Жэчпасполіта" Дарыуш Фікус, шэф Варшаўскага бюро вядомага ва ўсім свеце амерыканскага часопіса "Ньюсуік" Анджэй Нагорскі і г.д. Дарэчы, з апошнім па-за афіцыйнымі гутаркамі ў нас асабіста адбылася больш цёплая прыватная размова землякоў: аказалася, хоць сам Анджэй нарадзіўся ў Шатландыі, але ягоная маці паходзіць з Меншчыны (вёска Вязынь).

Плённая і напружаная праца пачалася ў самы першы наш вечар у Варшаве. Крыху адпачыўшы ад дарожнай стомы, усе ўдзельнікі семінара сабраліся ў адным з холаў "Рыўеры" на сваю першую нараду. Усяго прыехала 16 чалавек. Акрамя названай сяміасабовай беларускай групы, было 6 маладых журналістаў з Літвы і 3 — з Украіны. Вызначыўшы сістэму, паводле якой павінны адбывацца нашыя сустрэчы, мы прынялі рашэнне аб выданні семінарскай газеты-аднадзёнкі, дзе б кожны меў шанц выказаць свае думкі і ўражанні з нагоды ўбачанага і пачутага. Галоўным рэдактарам аднадушна быў абраны чалавек, які і падкінуў гэтую ідэю — вядомы польскі пісьменнік і перакладчык Чэслаў Сэнюх. Ён цудоўна ведае літоўскую, украінскую мовы, а асабліва беларускую, адкуль паходзяць ягоныя карані.

Перш чым перайсці да роспаведу аб падзеях семінара, крыху спынімся на ідэі ягонага правядзення. Відавочна, што затраты на гэтую акцыю былі немалыя. Каму выгадна выдаваць уласныя грошы на адукацыю чужых спецыялістаў? Здавалася, лагічнага адказу на такое пытанне няма. Але да іншай высновы прыходзіш, аналізуючы



агульныя працэсы, што адбываюцца ў Еўропе.

Еўропа імкнецца да інтэграцыі. Яна перажыла ўжо нямала эканамічных крызісаў і ваенных катаклізмаў. Людзі не могуць жыць у пастаянным адчуванні ворага пад бокам, не маючы паміж сабою зносін і не падтрымліваючы сяброўскіх кантактаў. На якіх жа прынцыпах і з кім будаваць гэтае яднанне?

За часы савецкай імперыі мы таксама аб'ядноўваліся, але гэта было яднанне аднолькавых. Таго, хто не ўпісваўся ў стандартную форму, штучна падганялі пад яе. Захад, здаецца, раней за нас асэнсаваў, што яднанне павінна адбывацца з павагай да адметнасці суседа. Народы цікавыя адзін аднаму тым, што яны розныя. І вось цяпер, калі імперыя развалілася, на ейныя аскепкі глядзяць з увагай тым больш, чым болей яны здольныя выявіць сваю адметнасць і патэнцыялы самастойнасці.

Прапаноўваючы нам азнаёміцца з польскім друкам, які вось ужо некалькі гадоў жыве ва ўмовах сапраўдных рынкавых адносін і шукае палітычнай незалежнасці ў эканамічнай стабільнасці і свабодзе слова, заходнія спонсары семінара хацелі, відаць, падвесці нас да думкі, што выйсце для дэмакратычнага грамадства не ў заідэалагізаванасці прэсы, а ў ейнай свабодзе.

Дырэктар агенцтва "Агора" Севярын Блюмштайн цудоўна раскрыў нам тэму "Выданне і фінансаванне прэсы". Практыка паказвае, што найменшым уплывам карыстаюцца выданні, якія фінансуюцца або дзяржавай, або пэўнымі партыямі, хоць некаторыя партыйныя лісткі ідуць нават на бясплатнае распаўсюдвжанне.

А што ж астатнія выданні? Кажуць, што яны трапілі ў моцную эканамічную кабалу ад рэкламадаўцаў. Але параўнаем гэтую залежнасць: менавіта ад партый і ад рэкламадаўцаў. Апошніх цікавіць толькі папулярнасць выдання, якая фарміруецца дзякуючы свабоднаму абмену інфармацыяй, незалежнасці выказванняў... Гаворка пра скіраваны адбор матэрыялаў тут не ідзе, хоць апошняе для партыйнай прэсы з'яўляецца ключавым.

Вельмі яскравым прыкладам для ілюстрацыі гэтых слоў можа стаць "Газэта Выборча". У маі 1987 года яна паўстала як афіцыйны орган выбарчага камітэта "Салідарнасці" і адразу набыла вялікую папулярнасць. Прычыны гэтай папулярнасці тояцца перш за ўсё ў тым, што тады гэта было адзінае апазіцыйнае акно ў татальнай сцяне камуністычнае прэсы. Паралельна незалежны прафсаюз выдаваў штотыднёвік "Салідарнасць", тыраж якога даходзіў да 500 000 экземпляраў. Аднак са зменай абстаноўкі зацікаўленасць людзей крайнімі палітычнымі лозунгамі прыкметна аслабела. "Газэта Выборча" адна з першых зразумела, што прэса павінна несці аб'ектыўную інфармацыю, а не палітычны каментарый да яе. І вось вынік: "Газэта Выборча" стала цалкам незалежнай і выдаецца намаганнямі выключна рэдакцыйнага калектыву (даходзіла нават да судовага працэсу з саюзам "Салідарнасць"), тыраж яе зрабіў адной з самых папулярных газет Польшчы, у той час, як штотыднёвік "Салідарнасць" скаціўся да 15—20 тысяч асобнікаў. А тое, што 75 працэнтаў фінансаў "Газэты Выборчай" дае рэклама, што гэтую рэкламу з задавальненнем даюць у "Выборчу" розныя фірмы і грамадзяне, можна лічыць хутчэй заслугай газеты. Дый як жа іначай, калі пазіцыя выдання дапускае нават крытыку тых, каму яно сімпатызуе.

Падобныя метамарфозы перажыла і былая ўрадавая газета "Жэчпасполіта", заснаваная яшчэ ў 1982 годзе. Калі ранейшы рэдактар Тадэвуш Мазавецкі стаў прэм'ер-міністрам, ягонае месца заняў Дарыюш Фікус. Ён зразумеў, што мода на ўрадавыя выданні прайшла, бо сам урад шматпартыйны, а кожная партыя мае свае выданні. "Жэчпасполіта" стала незалежнай газетай для бізнесменаў, палітыкаў, інтэлігенцыі. Фінансуе яе французскі канцэрн "Керсон" і... рэклама. Гэта не выданне для мас, а хутчэй газета пэўнай бізнесэліты грамадства, тым не менш тыраж яе трымаецца каля чвэрці мільёна асобнікаў і дае магчымасць мець салідны ўплыў на грамадства.

Пад час візітаў у рэдакцыі гэтых выданняў мы звярнулі ўвагу, што кіраўніцтва там пільна клапоціцца пра ўмовы працы жур-





налістаў: камфартабельная мэбля, прадуманы дызайн памяшканняў, забяспечанасць тэхнічнымі сродкамі (прынтэры, камп'ютэры, тэлетайпы, тэлефаксы). Нават такія наватворы, як незалежная прыватная станцыя "Радыё Z", якая вяшчае выключна на Варшаву і наваколле, зарабіўшы грошы на рэкламе, не ў апошнюю чаргу падумала і пра ўмовы працы.

На жаль, зусім у іншых умовах аказалася Беларуская рэдакцыя Польскага радыё, якая падпарадкавана пакуль дзяржаўным структурам фінансавання. Адсюль і састарэлае абсталяванне, якое ўбачыш хіба ў якойсьці вучэбнай студыі ў нас, недахоп стужкі, кадраў. Адно, што тут радуе,— энтузіязм людзей, іхняя адданасць справе Беларускага Адраджэння.

Шкада, газетная плошча не дазваляе шырока раскінуцца думкамі і ўражаннямі, атрыманымі пад час семінарскае працы. Але нельга абысці хоць словам цудоўную культурную праграму, што прапанавалі арганізатары. Наўрад ці бываючы ў Варшаве турыстычна або па запрашэнню сваякоў кожны з нас дазволіў бы сабе візіт у тэатр за 120 000 злотых, бо на рублі гэта складае цэлую месячную нашую зарплату — 1200 рублёў (У Польшчы журналіст-пачатковец зарабляе за месяц 4 млн. злотых, а сталы спецыяліст — да 8 мільёнаў; гэта адпаведна 40 і 80 тысяч рублёў у месяц). Але мы трапілі і на ўразлівую рок-оперу Януша Юзафовіча "Метро" на сцэне Варшаўскага драматычнага тэатра, і на фільм італьянскага рэжысёра Леанарда Берталучы "Апошні імператар", і на выставу мастака-авангардыста Лібенштайна, на спецыяльна выдзеленыя грошы набылі альбомы Далі, Шагала, Пікасо, кнігі па гісторыі Польшчы і Беларусі. Свае думкі мы пакінулі ў адзіным нумары газеты-аднадзёнкі "Белрыўерапрэс", якая меркавалася як беларуска-украінска-літоўскае выданне, але па шэрагу прычын (у тым ліку і з-за несабранасці нашых калег) стала выключна беларускім. Так што, думаецца, і беларусы пакінулі аб сабе добрыя думкі ў нашых замежных калег, і самі павезлі з собою карысны вопыт.

Бадай, галоўнае ў гэтым вопыце — асэнсаванне таго, што колер скуры, нацыянальная непрымірымасць, ідэйныя непаразуменні і так ужо дастаткова раз'ядноўваюць народы, раздзяляюць на часткі краіны. Найбольшая небяспека тоіцца ў тым, што ў сэрцы зняверанага і галоднага чалавека можа нарадзіцца злосць і чорная зайздрасць да таго, хто жыве лепш. Яшчэ няблага, калі гэтая зайздрасць прымусіць лепш працаваць ды нешта змяняць у сабе, каб жыць лепей, аднак зусім нярэдка яна прыводзіць да больш простага — да жадання націснуць кнопку ядзернай ракеты і ... ураўнаваць жыццёвыя ўмовы ўсіх на зямлі.

І таму людзі Усходняй Еўропы павінны знайсці паразуменне не толькі паміж сабой, але і з людзьмі Заходняй Еўропы. Здаецца, семінар у Варшаве дапамог нам на ўласныя вочы ўбачыць, што можа даць свабода. Свабода друку, свабода выказвання сваіх думак, свабода эканамічнай дзейнасці. Паразуменне дасягаецца рознымі шляхамі, і каб дасягнуць яго — не шкада грошай. Бо сквапны, як вядома, плаціць двойчы: калі кожны будзе будаваць толькі сваё шчасце, яно можа нечакана разляцецца ад таго, што сусед, аказаўшыся ў ізаляцыі, пайшоў памылковым шляхам.

Усвядоміць гэта павінна ў першую чаргу ўлада кожнай краіны. І мы, прадстаўнікі чацвёртай улады, можам толькі падзякаваць Фонду дэмакратычнага цэнтра Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ды асабіста Павалу Казанецкаму і Якубу Баратынскаму, што яны паклапаціліся пра гэта.

**Зміцер Лукашук,**
**Вітаўт Мартыненка.**
**Беласток—Варшава—Менск**






**НА ЗДЫМКАХ:**
- ☐Аб праблемах беларусаў Беласточчыны распавядае Віталь Луба.
- ☐Беларуская група выпускае "Белрыўерапрэс".
- ☐Семінар вядуць Якуб Баратынскі і перакладчык Даніэль Зых.
- ☐Візіт у рэдакцыю "Радыё Z".
- ☐Шэфа беларускай рэдакцыі Польскага радыё Ярэка Іванюка ўзрадавала сустрэча з калегамі па другі бок мяжы.

Фота У.ПАНАДЫ.

*З народных крыніц*

# Культ дрэў у беларусаў




Многія народы свету пакланяліся не толькі камяням і вадаёмам, але і дрэвам. Культ дрэў звязаны з анімістычнымі культамі абогатварэння прыроды. Амаль ва ўсіх еўрапейскіх народаў існаваў культ дубу. Дубровы былі свяшчэннымі месцамі, і дубы сімвалізавалі магутнасць. У грэкаў дуб лічыўся дрэвам Зеўса, у рымлян — Юпітэра, а ў беларусаў — дрэвам Пяруна і звязваўся таксама з культам продкаў. Таму невыпадкова шмат курганных могільнікаў знаходзіцца менавіта ва ўрочышчах з назвамі Дубішча, Дубкі, Дубняк, Задубенне, Дубавіца. Цікава адзначыць, што многія каменныя язычніцкія ідалы і культавыя валуны таксама выяўлены ва ўрочышчах пад назвамі Дубіні, Дубовае, Дубовы Грудок і т.п.

Яшчэ і сёння можна пачуць, як старыя магутныя дубы называюць Волатам ці Асілкам. На пачатку нашага стагоддзя некаторым дубам насілі ахвяры, на іх галінкі вешалі ручнікі. Напрыклад, у 20-я гады каля в.Царкавішча на Ушаччыне вельмі шанаваўся дуб, які быў побач з крыніцай. Прыходзячы браць ваду са святой крыніцы, людзі клалі ахвяры ў дупло дуба. Калі ў 1921 годзе чырвонаармейцы спалілі дрэва, то людзі працягвалі класці падарункі на абгарэлы пень. Паблізу Магілёва, на гарадзішчы Барсучая Горка, шанаваліся крыніца і стары дуб, на Бягомельшчыне Саўкін Дуб, а на Ашмяншчыне пакланяліся аднаму з дубоў у лесе і звалі яго "Дэвайціс", што ў перакладзе з літоўскай мовы азначае "божышча".

У этнаграфічнай літаратуры ўпамінаецца яшчэ шмат іншых паклонных дубоў, як, напрыклад, на беразе Сажа, каля Слоніма, Вітаўтаў Дуб на Віцебшчыне. У пісьмовых крыніцах XVII-XVIII стст. неаднаразова ўпамінаюцца сосны, якія карысталіся асаблівай павагай мясцовага насельніцтва. Шмат паданняў пра сасну запісана і этнографамі. Неаднаразова згадваецца паклонная сасна паміж вёскамі Мервінам і Цімашэнкамі Аршанскага павета. Шырокавядомай была і сасна каля в.Старыца Салігорскага раёна. Расказваюць, што аднаму селяніну, хвораму на вочы, прыснілася, што, каб вылечыцца, ён павінен побач з сасной паставіць крыж. Селянін так і зрабіў і нібыта вылечыўся. Яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя людзі неслі да сасны лён і грошы. Да сённяшняга дня народ расказвае паданне пра сасну ў Мішневічах Шумілінскага раёна і пра дзве сасны Лідскага замка. Сасну ж на кургане каля в.Узрэчча на Глыбоччыне называюць Французская Сасна, а сасну каля Сцёп-Каменя каля вытокаў Віліі завуць Сасна-Куліна. Да нядаўняга часу ў адну з соснаў на балоце каля в.Шаршуны паблізу Радашковіч кідалі грошы.

Цікавыя звесткі маюцца пра тры ліпы каля в.Капланцы Бярэзінскага раёна. Каля гэтых дрэў наладжваліся святы, з'язджалася шмат сялян з навакольных вёсак, адбываліся кірмашы. Потым адна ліпа згарэла ад маланкі і ў пачатку XX ст. дзве ацалелыя ліпы, паводле павер'яў, працягвалі лячыць людзей ад псіхічных хвароб. Для гэтага хвораму трэба было пралезці праз дзірку ў дрэве. Пасля гэтага ён павінен быў разарваць на сабе тую частку адзення, якая дакранапася да хворага месца. Потым разарванае адзенне пакідалі каля дрэва і надзявалі новае. На Браслаўшчыне існуе паданне, што пасля пажару кляштара на востраве возера Несліш захавалася толькі адна Ікона Божай Маці, якая і сёння аб'яўляецца менавіта на ліпе аднаго з астравоў.

Шмат паданняў звязана таксама з асінай, вярбой і бярозай. Напрыклад, ад назвы "асіна" атрымала назву і вёска Асінгарадок на Пастаўшчыне. У гэтай вёсцы ёсць старажытнае гарадзішча. У паданні пра яго гаворыцца, што ў час шведскага нашэсця там стаяў рускі полк. Разведка данесла, што шведы ідуць ад в.Сарокі, і тады пачалі служыць малебен, а абразы павесілі на асіне. Але не паспелі скончыць малебна, як прыйшлі шведы. Жыхары кінуліся ў бой, адбілі шведаў і пагналіся за імі, а Ікона так і засталася на асіне. Потым на гэтым месцы пабудавалі Пакроўскую царкву і ў яе смясцілі чудатворную ікону, якая і пачала называцца Асінагарадокскай іконай.

Сёння людзі ўжо не звяртаюцца да дрэў за лячэннем і парадай, але яшчэ ад старажылаў можна пачуць паданні і павер'і, якія з'яўляюцца адгалоскамі міфаў нашых далёкіх продкаў.

**Людміла Дучыц ,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Інстытута гісторыі АН БССР.**

# Цярністы шлях адраджэння

Складаныя працэсы, якія вызначалі развіццё нашай краіны ў XX стагоддзі, прывялі да істотных змен старажытных традыцый беларускага народа. Новы час нарадзіў свае песні, абрады і рытуалы, асновай якіх стала не маральна-этычная і эстэтычная накіраванасць, а пампезна элітарная рафініраванасць, не заўсёды адпавядаючая жыццёвым рэаліям. Штучныя, выпрацаваныя ў метадычных кабінетах дэпартамента культуры рытуалы ўлічвалі спецыфіку гістарычнага развіцця этнасу, не апіраліся на фундаментальныя даследаванні ў галіне сацыялогіі і фальклору. Больш таго, адміністрацыйна-камандны стыль ужыўлення новых абрадаў прыводзіў да таго, што распрацаваны сцэнарый абраду распаўсюджваўся ў межах краіны без уліку традыцый той або іншай мясцовасці.

Сёння, калі ліквідавана ідэалагічная цэнзура і мы атрымалі магчымасць свабоднага самавыяўлення, генеральныя шляхі развіцця культуры сталі надзвычай шматлікімі. Часам нават у асяроддзі прадстаўнікоў адной сацыяльнай або ўзроставай групы яны маюць узаемавыключны характар. Маладзёжную аўдыторыю, напрыклад, апанавала маскультура празмерна шырокага спектра выяўлення. Разам з тым набірае моц і тэндэнцыя ўзрастаючай зацікаўленасці да духоўных вытокаў народнай культуры.

Безумоўна, строга навуковы падыход да з'яў сучаснага фальклорнага адраджэння дае магчымасць заўважыць шматлікія прынцыповыя адхіленні ад традыцыйных спосабаў культурнай трансляцыі. Аднак сама па сабе цікавасць да вуснапаэтычнай творчасці сведчыць аб тым, што папярэдні перыяд не прывёў яшчэ этнічную свядомасць да генна-спадчынных мутацый. Перарванае ў часе адвольнае развіццё культуры захавала яе рэшткі ў прасторы і памяці этнасу. Свядомасць, заціснутая універсалізацыяй і стандартызацыяй навакольнага асяроддзя, усё больш акрэслена імкнецца зразумець ісцінную і вечную каштоўнасць мазаічных рэліктаў традыцыйнай, матэрыяльнай і духоўнай культуры (аднаўленне храмаў, мастацкіх промыслаў і рамёстваў, адраджэнне народных свят з усёй адпаведнай атрыбутыкай, вяртанне спрадвечных назваў гарадам і вёскам).

Павышаная зацікаўленасць да адраджэння духоўнай культуры прыводзіць да значнай трансфармацыі форм і спосабаў яе бытавання і функцыяніравання, узнікаюць спецыфічныя інтэграцыйныя працэсы, якія аб'ядноўваюць фальклор з рознымі тыпамі мастацкай культуры, у выніку якіх сучасны фальклорны субтрат становіцца значна шырэйшы, чым яго старажытная сінкрэтычная першааснова. Безумоўна, галоўнай задачай фалькларыстаў з'яўляецца актыўная праца з фальклорнымі калектывамі, якія захоўваюць асноўныя асаблівасці аўтэнтычнай песеннай культуры і непасрэдна працягваюць існаванне традыцыі. Інфарматары найбольш сталага ўзросту бачацца нам сёння адзіна магчымай жывой ніткай паміж мінулым і сучаснасцю. Абрыў кожнага валаконца гэтай ніці можа прывесці да звужэння бытавання традыцыі і канчатковага яе адмірання ў будучым. Таму сёння вельмі важна стварыць універсальны банк фальклорна-абрадавых каштоўнасцей з дапамогай высакаякаснай аўдыёвізуальнай апаратуры. Такая праца ўжо распачата на Беларусі. Рэспубліканскае радыё і тэлебачанне ствараюць відэафільмы аб правядзенні асобных народных свят, аб творчасці фальклорна-этнаграфічных калектываў. На жаль, гэта неабходная, але вельмі адказная справа не апіраецца на навуковую аснову і таму мае негатыўны бок. Спрошчана-журналісцкая папулярызатарская дзейнасць нарадзіла шэраг фільмаў, у якіх не ўлічваюцца лакальныя асаблівасці песеннай культуры і народнага адзення. Паспешлівасць у стварэнні фільмаў і адсутнасць высокакваліфікаванай навуковай кансультацыі сказілі сюжэтны рэпертуар, як правіла, пакідаючы не адлюстраванай яго найбольш архаічную, рытуальна абумоўленую частку. Справа ў тым, што прадстаўнікі розных фальклорных калектываў бачылі па тэлебачанні выступленні сваіх папярэднікаў і, спадзеючыся самім трапіць на блакітны экран, пераймалі іх песні, не ўлічваючы пры гэтым, што здавён гэтыя песні не былі характэрны для канкрэтнай мясцовай традыцыі. І, як правіла, адбывалася запазычанне не лакальна прымеркаваных абрадавых твораў, а пазаабрадавых ці нават тых, якія ў XX ст. узніклі ў асяроддзі рускага або ўкраінскага этнасу, а потым распаўсюдзіліся і на Беларусь. Не ведаючы дакладна шляхоў песеннай міграцыі, тэлежурналісты ахвотна фіксавалі іх у розных мясцовасцях рэспублікі і разважалі аб блізкасці сюжэтнага рэпертуару даволі аддаленых лакальных традыцый. А кіраўнікі калектываў імкнуліся любым чынам трапіць у гісторыю відэакультуры, таму паспешліва развучвалі пачутыя песні, не зважаючы на тое, што не зусім яны родныя.

У цяперашні час на Беларусі існуюць яшчэ дзве формы бытавання вуснапаэтычнай творчасці. З аднаго боку, фальклорна-этнаграфічныя калектывы рыхтуюць праграмы класічнага фальклору, але іх выкананне адбываецца з парушэннем прасторава-часавай суаднsocнасці, г.зн. ва ўмовах абмежаванай прасторы: на сцэне Палаца культуры ці студыі тэлецэнтра. З другога боку, набірае моц тэндэнцыя адраджэння традыцыйных для сельскай мясцовасці свят ва ўмовах горада. Гэта свята сустрэчы вясны, Купалле, паміnанне продкаў ("дзяды"), Каляды (у межах сустрэчы Новага года). Шчыльна да гэтай формы прымыкае папулярызацыя архаічнага пласта культуры самадзейнымі калектывамі. Яны імкнуцца ажыўляць аўтэнтычны фальклор у адрыве ад сацыяльна-гістарычных, прасторава-часавых і этнакультурных умоў.

Шырокая фальклярызацыя сучаснага жыцця скіравана на тое, каб павярнуць станаўленне свядомасці асобы да народных вытокаў, аднавіць этнічную традыцыю з яе ўнутранымі роднаснымі, вытворча-эканамічнымі, канфесіянальнымі і іншымі сацыяльнымі сувязямі, з рытуальна-этнічнымі нормамі. Аднак гэты працэс даволі складаны і супярэчлівы. Бадай што галоўная складанасць заключаецца ў тым, каб ператварыць кожнага ўдзельніка свята з пасіўнага гледача ў актыўнага носьбіта і прадаўжальніка традыцыі. У цяперашні час гэта задача шматразова ўскладняецца прынцыпова недакладным характарам святкавання; звычайна ўсё дзеянне сканцэнтравана ў адным месцы (у парку, на спецыяльнай пляцоўцы або на плошчы). У такіх выпадках наўрад ці ўдасца ператварыць тэатралізаванае шоу-відовішча ў строга рэгламентаваны рытуал.

Шырокае далучэнне да народнай творчасці як мага большага кола грамадскасці — з'ява станоўчая і неабходная. Але для яе ажыццяўлення патрэбна рэалізацыя прадуманай шматгадовай праграмы сацыялізацыі асобы ў пэўным фальклорна-этнаграфічным локусе. Інакш можна будзе не заўважыць хісткую мяжу паміж фальклорным адраджэннем і магчымай небяспекай зрабіць яго разнавіднасцю масавай культуры з усімі спадарожнымі атрыбутамі.

**І. Крук,**
**кандыдат філалагічных навук.**






# БЕЛАРУСКІ КА

1/19. (траўня па ст.ст.). Людзі прыкмячалі: калі ў першы і другі дзень чэрвеня лье дождж — увесь месяц будзе сухі.

3/21. Алёна, Ульяна — дзень ільну.

4/22. Васіліска ("Ад Васіліска і салавей блізка").
*Ушэсце, Шоснік — дзень агляду жыта; саракавы дзень пасля Вялікадня. Абрад "Ваджэння і пахавання стралы".

5/23. Дзень памяці Ефрасінні Полацкай. Хадзілі ў Полацк пешшу.

7/25. *Сёмуха каталіцкая[1].

11/29. Хвядосся Каласяніца ("Хвядосся Каласяніца — жыта каласіцца").

12/30. Сёмушныя, Траецкія, Дзяды — пятніца перад Сёмухай ("У пятніцу вараць поснае, а ў суботу — скаромнае").

13/31. *Духавая субота, Сёмка, Стаўроўскія Дзяды — працяг памінальных дзён. *Кляновая субота, Зелянец, Май, Зялёныя сваткі — свята зелені. Ерамей ("Прыйшоў Ерамей — больш не сей").

14/1. *Сёмуха, Сямік, Тройца, Клечанне — свята культу продкаў і расліннасці; пяцідзесяты дзень пасля Вялікадня ("Мы куміліся, не сварыліся"). Юстын. Харытон ("Юстын цягне ўверх каноплі, а Харытон — лён").

15/2. Пачатак Праводнага, Гранага тыдня, Русальніцы — наступны дзень пасля Сёмухі. Абрад "Ваджэння куста".

16/3. *Конскі Вялікдзень — аўторак пасля Сёмухі.

17/4. *Градабой, Серада-Русаль — дзень аховы ад грому, здабывання "жывога агню"; серада на Русальным тыдні.

18/5. *Наўская Тройца, Наўскі чацвер — дзень памінання продкаў; чацвер пасля Сёмухі. "Абліваха" — абрад выклікання дажджу.

21/8. *Пятроўскія запускі — пярэдадзень Пятроўкі. Абрады "Развівання вянкоў".
Тодар ("На Тодара раса — канапель паласа").

22/9. *Розыгры — апошні дзень Русальнага тыдня. Пятроўка, Пятроўскі пост ("Хто ў Пятроўку сена не косіць, той зімою ў сабак просіць").

23/10. Купалле — язычніцкае свята летняга сонцастаяння ("Сёння Купала, заўтра Ян, пойдзем, дзевачкі, у зялёны гай").

24/11. Ян Купальны, Янаў дзень ("На Яна сонца гуляе").

25/12. *Дзевятнік — чацвер на дзевятым тыдні пасля Вялікадня ("У жыце... красу здамаець").
Анапрэй ("Святы Анопры, радзі каноплі").

26/13. *Дзевятуха — пятніца на дзевятым тыдні пасля Вялікадня ("Дзевятушка-памяжаначка па межах хадзіла, жытцо абзірала").
Акуліна Грэчышніца, Акуліна Задзярыхвост ("Каровін зык").

28/15. Амос. ("Прыйшоў Амос — цягне ўгору авёс").

29/16. Ціхан — дзень заканчэння севу на Смаленшчыне.
Пётра і Паўла ("Святы Пётра ў косы звоніць, а святы Паўла граблі робіць").

---

*Зорачкай абазначаны дні, якія не маюць пастаяннага дня ў календары, а залежаць ад месца Вялікадня ў годзе.

[1] Выдзелены каляндарныя дні, якія бытуюць ці бытавалі ў беларусаў-католікаў.

Алесь ЛОЗКА.

# ПЕРШАЯ ШКОЛА

1991-ы год, напэўна, застанецца ў памяці брастаўчан як год падпісання на іх зямлі Дагавора аб садружнасці незалежных дзяржаў ды, бадай, яшчэ як год пагаршэння і без таго невысокага ўзроўню жыцця большасці з яе жыхароў. На фоне штодзённых турбот неяк у цяні засталіся многія падзеі мінулага часу і сярод іх такая знамянальная гадавіна, як 400-годдзе з дня заснавання першай на тэрыторыі Беларусі Брэсцкай брацкай школы. А шкада, бо дзейнасць брацкіх школ пакінула глыбокі след не толькі ў гісторыі нашага краю, але і ў сусветнай педагогіцы: нездарма спецыялісты лічаць, што агульнапрынятая зараз ва ўсім цывілізаваным свеце класна-ўрочная сістэма адукацыі задоўга да Я.А.Каменская практыкавалася ў брацкіх школах Вялікага княства Літоўскага. І гэта, заўважым, пераканаўча пацвярджаецца статутамі першых праваслаўных брацкіх школ, якія дайшлі да нашага часу,— Віленскай і Львоўскай. Брэсцкая брацкая школа была ў гэтым пераліку трэцяй.

Яна была заснавана ў 1591 годзе пры Саборнай царкве Святога Мікалая. "Позволяем мещанам Берестейским закону Греческого, — сцвярджалася ў Каралеўскай грамаце, — школу рускую при церкве соборной заложенія Святого Ніколы меті і ўченых для наўкі і цвіченья детем і молодым людем ховаті". Статус "брацкай школы" быў нададзены новай навучальнай установе невыпадкова. Брацтвы, як прафесійна-рэлігійныя арганізацыі праваслаўнага насельніцтва, атрымалі шырокае распаўсюджанне ў гарадах Вялікага княства ў XVI-XVII стагоддзях. Яны аб'ядноўвалі прадстаўнікоў розных саслоўяў — купцоў, рамеснікаў, дробную шляхту, духавенства — усіх тых, хто жадаў уступіць у брацтва і быў здольны ўнесці адпаведны ўступны ўзнос. Патрэбнасці брацтва ў адукаваных і культурных людзях павінны былі задаволіць ствараемыя пры іх школы.

Адсутнасць саслоўнасці рабіла іх, бадай, найбольш дэмакратычнымі навучальнымі ўстановамі свайго часу. Нягледзячы на тое, што асноўную частку навучэнцаў брацкіх школ складалі прадстаўнікі сярэдніх слаёў, вучыліся ў іх і дзеці беднякоў, якія, дарэчы, як правіла, вызваляліся ад аплаты за навуку. Становішча вучня ў брацкай школе вызначалася не матэрыяльнай забяспечанасцю яго бацькоў, а выключна поспехамі ў навучанні.

Пытанне аб залічэнні на вучобу ў брацкую школу вырашалася яе рэктарам, які выбіраўся на гэтую пасаду брацтвам. Бацька абітурыента ў прысутнасці двух сведкаў заключаў з ім пісьмовы дагавор, у якім, з аднаго боку, абумоўлівалася плата за вучобу, а з другога — вызначалася, чаму павінны яго сына ў гэтай школе навучыць. Акрамя таго, з бацькоў бралі абяцанне не забіраць сына да поўнага завяршэння ім курсу вучобы.

А ён быў даволі складаным, гэты курс, нават у параўнанні з сённяшнім часам. Адных толькі моў у Брэсцкай брацкай школе вывучалі пяць: лацінскую, грэчаскую, старaславянскую, польскую. Пры гэтым абавязковым было валоданне беларускаю моваю, якая, згодна са Статутам Вялікага княства, з'яўлялася дзяржаўнаю. Акрамя таго, у школе вывучалі рыторыку, дыялектыку, піітыку (майстэрства вершаскладання), астраномію, геаметрыю, арыфметыку, музыку, творы антычных мысліцеляў Арыстоцеля, Платона, Эпікура, летапісныя паданні, рэлігійную літаратуру, царкоўны ўстаў.

На вывучэнне ўсяго гэтага адводзіліся тры гады. Заняткі пачыналіся з дзевяці гадзін раніцы і працягваліся пасля абеду. Нават вечарам, прыйшоўшы дадому, навучэнец брацкай школы не быў прадастаўлены самому сабе: ён павінен быў паўтарыць матэрыял, які вывучаў на працягу дня, і падрыхтаваць абавязковае дамашняе заданне. Кантроль за навучэнцамі з боку настаўнікаў (дыдаскалаў) быў сапраўды ўсёабдымным: яны наведвалі вучняў дома, каб праверыць, як тыя рыхтуюцца да заняткаў, суправаджалі іх пад час богаслужэнняў, правяралі, чым іх выхаванцы займаюцца ў вольны час. Дысцыпліне ў брацкіх школах увогуле ўдзялялася вялікая ўвага: за пропуск урокаў на працягу двух дзён без уважлівых
прычын вучня звычайна выключалі с
што ў адрозненне ад вучэбных устано
за розныя правіннасці шырока выка
пакаранне навучэнцаў (розгамі), у бр
княства гэтая мера амаль не прымяня

Высокія патрабаванні прад'яўлял
брацкіх школ. Невыпадкова, што сяро
ных педагогаў, літаратараў, вучоных.
разглядаемы перыяд набыла ас
Лаўрэнція Зізанія, які працаваў у Брэ
1592 г. па 1595 г. Менавіта ён з'явіўся
ў Вялікім княстве друкаванага буква
г., праўда, ужо ў Вільні, куды Л.Зіза
Л.Зізаній быў таксама аўтарам "Гра
напісанай у форме пытанняў і адказа
беларускай мовах. Падручнікі Л.Зізан
толькі ў школах Вялікага княства, і
Балгарыі, Сербіі, Польшчы і нават у Р

Прычыны пераезду Л.Зізанія ў 1595
і шэрагу іншых высокакваліфікаван
каў) былі звязаны ў першую чаргу

# АЛЯНДАР



чалі са школы. Характэрна,
станоў Заходняй Еўропы, дзе
выкарыстоўвалася фізічнае
, у брацкіх школах Вялікага
мянялася.

хуляліся і да настаўнікаў
о сярод іх было многа выдат-
ных. Асаблівую вядомасць у
асветніцкая дзейнасць
у Брэсцкай брацкай школе з
віўся стваральнікам першага
буквара, выдадзенага ў 1596
Л.Зізаній пераехаў з Брэста.
"Грамматики словенской",
дказаў на старaславянскай і
Зізанія выкарыстоўваліся не
ва, іх добра ведалі ў Чэхіі,
ат у Расіі.
1595 г. у Вільню (як, дарэчы,
аваных брэсцкіх выкладчы-
аргу з павышэннем статуса

Віленскай брацкай школы. Наданне ёй статуса "саборнай" у 1594 г. істотна адбілася на павялічэнні аплаты працы настаўнікаў. Невыпадкова, брэсцкі епіскап Іпацій Пацей у сваім лісце ад 25 сакавіка 1595 г. скардзіўся на мясцовых "профессоров школьных", якія "до Вільні на сытшіе пірогі отбеглі".

А праз год у Брэсце адбылася падзея, якая аказала ўплыў не толькі на далейшы лёс брацкіх школ, але і на рэлігійную сітуацыю ў Вялікім княстве ўвогуле. Брэсцкая унія 1596 г. абвясціла аб'яднанне праваслаўнай і каталіцкай цэркваў на ўсёй яго тэрыторыі. Праваслаўныя школы пачынаюць паўсюдна ператвараць ва уніяцкія. Не абмінуў гэты лёс і Брэсцкую брацкую школу, якая 26 чэрвеня 1597 г. была ператворана ва уніяцкую. У адпаведнасці з Каралеўскай граматай на ўтрыманне яе уніятам перадаваліся два манастырскія сёлы. Але гэта ўжо другая гісторыя...

**Сяргей Яцкевіч,**
**доктар філасофскіх навук,**
**прафесар Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута.**

## *Міфалогія*

Існуе павер'е, што той, хто справіць вяселле альбо проста нават народзіцца ў маі, будзе "маяться" ўсё жыццё. Але шмат чым даказана, што гэты забабон не быў уласцівы нашым далёкім продкам. Тыя, наадварот, лічылі май шчаслівым месяцам. Бо менавіта ў гэтым месяцы, згодна з міфам, ажаніўся сам Даждзьбог. Май — апошні месяц вясны, апошні яе перыяд перад пераходам у лета. І якраз у апошні майскі дзень, у

Увесь месяц май (менавіта май, а не травень, як па аналогіі з украінскай мовай да нашых часоў называюць гэты месяц у некаторых рэгіёнах рэспублікі) нашы продкі ўяўлялі сабе нібыта грандыёзную цырымонію падрыхтоўкі нявесты да вясельнага абраду. Канец вясны і пачатак лета, па аналогіі з прыроднымі з'явамі, яны параўноўвалі з пераходам чалавека ад халасцяцкага жыцця да сямейнага. Невыпадкова ў календары




дзень, калі вясна і лета сустракаліся, нашы продкі святкавалі гэтак званы "Ярылін дзень". Менавіта тады шматлікія закаханыя ўступалі ў шлюб. Па сімволіцы свята нявесты прадстаўлялі багіню Маю, а жаніхі — бога Ярылу (адну з іпастасяў Даждзьбога). Дарэчы, у больш позні час, калі частка функцый Даждзьбога была прыпісана Перуну і калі менавіта Пярун узначаліў славянскі пантэон, імя Ярылы сярод многіх плямёнаў стала асноўным для абазначэння Даждзьбога. Але гэта адбылося пазней. Першапачаткова ж гэты бог меў асноўнае імя Даждзьбог, а іншыя — Сварог, Хорс, Ярыла — з'яўляліся своеасаблівымі эпітэтамі вярхоўнага бажаства, эпітэтамі, якія ўжываліся ў залежнасці ад таго, што за функцыі гэтага бога ўспаміналіся. Ярылу, напрыклад, прыгадвалі як бога сонца. Вядома, што некаторыя плямёны карысталіся часцей за ўсе толькі якімсьці адным з гэтых эпітэтаў. Гэта рабілася прыкладна гэтак жа, як у старажытнай Грэцыі. Антычныя грэкі, напрыклад, Афрадыту даволі часта называлі Кіпрыдай або Цыцэрэяй, а Апалона — Фебам. Ва ўсіх падобных выпадках размаўляючыя цудоўна ведалі і іншыя імёны прыгадваемых імі багоў.

язычнікаў-славян на гэты месяц прыходзілася і свята багіні Лады (Ляльнік), якая павінна была благаславіць божую пару — Даждзьбога і Маю. У людзей у гэты дзень адбывалася штосьці накшталт сучасных заручын, на якіх сем'і будучых маладых дамаўляліся паміж сабой аб вяселлі. У гэты дзень часцей за ўсё абручаліся юныя пары. Для людзей больш сталага ўзросту і вядучых самастойную гаспадарку зручней было прызначыць вяселле на восень, на той час, калі заканчвалася ўборка ўраджаю.

Пазней, пасля прыняцця хрысціянства, "Ярылін дзень" разам са шматлікімі іншымі язычніцкімі святамі быў выключаны з сялянскага календара. Мала-памалу заглох і звычай майскіх вяселляў. Больш таго, было зроблена ўсё, каб вынішчыць нават саму памяць аб іх. З гэтай мэтай у абарот было пушчана павер'е аб небяспечнасці заключэння ў гэтым месяцы шлюбаў. Для гэтага выкарысталі сугучнасць назвы месяца з рускім словам "маяцца".

Звычай памалу забыўся. Але тое-сёе ў народнай памяці яшчэ захавалася. Успомнім хаця б прымаўку: "Надышоў май — нявесту імай".

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**Мікола БАГАДЗЯЖ.**

# СПАДАРОЖНІЦА ВОІНА



*Час — няўмольная рэч. Ён адносіць у нябыт не толькі людзей і падзеі, але і самую памяць пра іх. І жорстка расплачваюцца бяспамяцтвам нашчадкі тых, хто не здолеў альбо проста не захацеў даверыць паперы ці пергаменту гэтую памяць. Літаральна па кавалках складаем мы для сябе партрэты герояў мінулага: адважных палкаводцаў, мудрых правіцеляў, страсных прапаведнікаў. Сціплых радкоў летапісаў і хронік яўна не хапае, каб добра ўявіць сабе, якімі яны былі на самай справе. Што ж датычыць жанчын, дык звесткі пра іх даводзіцца літаральна адваёўваць у змрочнага нябыту. Вышэйшая несправядлівасць: летапісцаў у асноўным цікавілі тыя жанчыны, з якімі былі звязаны нейкія скандальныя гісторыі, і амаль нічога не пісалі пра сціплых, рахманых спадарожніц жыцця вялікіх герояў. Нават імёны жонак нашых беларускіх князёў нам вядомы не ўсе. Тым большая радасць даследчыка, калі міжволі адкрыеш для сябе яшчэ адну светлую постаць з шэрагу тых, перад кім схіляліся ў вялікай пашане сучаснікі, тых, каму лёсам было прадвызначана каханнем сваім натхняць на ратныя подзвігі.*

Адна з іх — дачка вялікага Гедыміна і жонка славутага Давыда Гарадзенскага, Бірутэ.

Старажытная балцкая прыказка гаворыць: "У вялікага воіна павінна быць вялікая сям'я". У Гедыміна сапраўды было сем сыноў і сем дачок, якіх падаравалі яму дзве жонкі, Ева і Вольга. Бірутэ расла сярод сапраўднага кветніка красунь-сясцёр. Але, паводле падання, была самай прыгожай з іх.

Як бы хацелася ў расказе пра Бірутэ абкружыць яе ў гэты перыяд жыцця сонечнымі промнямі, мудрагелістымі мелодыямі літоўскіх дайнаў, таямнічымі прадказаннямі язычніцкіх жрыц-вайдэлотак, вогненнымі вянкамі, што дзяўчаты спускаюць па рацэ, загадваючы пра будучае.

Але гісторыя сціпла маўчыць пра ўсё, што датычыцца жыцця Бірутэ ў сям'і Гедыміна, акрамя адной дэталі: Бірутэ была любімай дачкой у бацькі. Ці не з-за гэтага яе імя сярод імёнаў дачок Гедыміна захавалася праз стагоддзі ў сваёй язычніцкай прыгажосці? Сёстраў Бірутэ летапісы называюць імёнамі, дадзенымі ім пасля хрышчэння, якое дзяўчаты-язычніцы прымалі, каб выйсці замуж за хрысціян. У залежнасці ад таго, каталіцкага альбо праваслаўнага веравызнання будучы муж, князёўны атрымлівалі каталіцкія альбо праваслаўныя імёны. Алдона, Данміла, Марыя — так назвалі трох сясцёр Бірутэ каталіцкія святары перад вянчаннем з польскім каралём Казімірам і мазавецкімі князямі Ваньком і Баляславам. Настасся, Соф'я, Марыя — такія імёны атрымалі іншыя сёстры ад праваслаўных папоў перад далёкім шляхам у Маскву, Галіч і Цвер.

Пэўна, у сваёй амбіцыйнасці святары розных канфесій не дамовіліся паміж сабою, стварыўшы для многіх даследчыкаў своеасаблівую загадку: адкуль у адной сям'і дзве Марыі?

У адрозненне ад дачок, з сынамі Гедыміна ўсё зразумела. У іх прыгожыя літоўскія язычніцкія імёны: Монтвід, Любарт, Альгерд, Яўнут, Карыят, Кейстут, Нарымунт. Такія ж, як у сястры іх Бірутэ. У далейшым Бірутэ таксама давядзецца прыняць хрост перад замужжам. Але прамяністае светлае імя любімай дачкі Гедыміна так упадабае адважны воін Давыд Гарадзенскі, што і ў далейшым будзе называць яе ім жа.

Наогул у Гедыміна ніколі не балела сэрца наконт неабходнасці пераходу членаў яго сям'і ў хрысціянства. Сам ён некалькі разоў за жыццё мяняў веравызнанне. Так жа вольна ставіліся да веры і яго сыны. Вера ніколі не была перашкодай для заключэння шлюбаў Гедымінавых дачок. Аб яго поглядах у гэтых адносінах яскрава сведчыць грамата-адказ на пісьмо рымскага папы, тэкст якой прыводзіць У.М.Ігнатоўскі ў кнізе "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі": "Я казаў, што дазволю хрысціянам маліцца па звычаю іх веры, русінам — па іх звычаю, палякам — па іх. А мы, літвіны, будзем маліцца па нашаму звычаю, бо ўсе мы паважаем аднаго Бога".

У 1299 годзе ў Віленскім палацы Гедыміна ўрачыста адзначылі паўналецце юнай прыгажуні Бірутэ. Тут мы падыходзім акурат да таго часу, калі да здагадак і гіпотэз пра нашу гераіню далучаюцца канкрэтныя факты. Бо менавіта ў гэтым годзе ў родных мясцінах свайго бацькі Доўманта, князя нальшчанскага, упершыню з'яўляецца юны Давыд. Калісьці Доўмант вымушаны быў пакінуць радзіму, бо меў дачыненне да гібелі Міндоўга. У Пскове князя прынялі на службу, і там жа ад шлюба Доўманта з Марыяй, унучкай Аляксандра Неўскага, нарадзіўся Давыд. Пасля раптоўнай смерці бацькі і маці ў час мору, Давыд, выконваючы апошнюю волю Доўманта, вяртаецца ў Вялікае княства Літоўскае. Нальшчаны ж у гэты час належалі ўжо Гедыміну, якому малады князь і прапанаваў свае паслугі. Прыгледзеўшыся да семнаццацігадовага Давыда, Гедымін з задавальненнем адзначыў для сябе, што юнак валодае незвычайнымі ваеннымі здольнасцямі. Памятаючы таксама пра тое, якімі слаўнымі палкаводцамі былі бацька Давыда і яго прадзед Аляксандр Неўскі, прадбачлівы і мудры палітык Гедымін давярае яму войска.

На жаль, мы не можам прасачыць па фактах, якім чынам паміж юнымі Давыдам і Бірутэ ўзнікла прыязнасць і як яна перарасла ў каханне. Вядомы толькі яго вынік: маладыя людзі ў хуткім часе сталі мужам і жонкай. І шлюб гэты вітала сям'я Гедыміна. Праўда, сёй-той з даследчыкаў бярэцца сцвярджаць, што шлюбам кіравала не столькі каханне, колькі карыслівы разлік. Але такая канцэпцыя не вытрымлівае ніякай крытыкі. Тыя, хто імкнецца даказаць, што Гедымін шукаў такім чынам дапамогі Пскова, грамадзяне якога лічылі Давыда сваім законным князем, маглі б успомніць, што ў адносінах да князёў у пскавічоў і наўгародцаў ніколі не існавала ніякіх аўтарытэтаў. Жыхары так званых "вольных гарадоў" успаміналі пра сваіх князёў у асноўным тады, калі над горадам навісала небяспека. Да князя пасылаліся "дэпутаты", якія прасілі яго ўзначаліць войска. У мірны ж час заслугі князёў адыходзілі на другі план, і ўлада зноў пераходзіла ў рукі жменькі заможных гараджан. Улада Давыда ў Пскове была па сутнасці фармальнай, і ні на якую дапамогу з боку Пскова Гедыміну разлічваць не даводзілася б.

Гэтаксама недасканалым бачыцца нам і меркаванне пра тое, што сваім шлюбам з Бірутэ Давыд імкнуўся набыць моцнага саюзніка-абаронцу. Бо калі аб'ектыўна ўявіць сабе палітычнае становішча магутнага Гедыміна і "князя без княства" Давыда, то становіцца бачна, што ні пра якое саюзніцтва паміж імі гаворка ісці не можа. Усё вышэйсказанае красамоўна сведчыць за тое, што маладых аб'яднала каханне, якому не захацеў перашкаджаць Гедымін.

Хутка маладая сям'я едзе ў Гародню. Гедымін прызначае зяця сваім намеснікам, каштэлянам горада. І з гэтых часоў жыццё Бірутэ, як у сапраўднай спадарожніцы воіна, пачало складвацца з бяссонных трывожных начэй, радасці мужавых перамог і чакання. Вялікага бясконцага чакання, якое іншы раз становіцца пакутліва-нясцерпным.

Каштэляну Давыду даводзілася абараняць горад ад пастаянных нападаў крыжакоў. У 1305 годзе — комтур Конрад Ліхтэнхаген прывёў пад Гародню рыцараў з Брандэнбурга. У 1307 годзе спробу захапіць горад ажыццявіў грозны комтур Кёнігсберга Эберхард фон Вірненбург. Дзякуючы воінскаму таленту Давыда Гародня абодва разы выстаяла.

Акрамя прамых абавязкаў каштэляна, Давыд Гарадзенскі нярэдка прымаў на сябе і абавязкі ваяводы. Ён вадзіў сваіх вояў супраць нямецкіх рыцараў, асадзіўшых Навагрудак, з'яўляўся пастаянным абаронцам Пскова. Па ўсёй зямлі пракацілася слава пра прускія паходы Давыда, з якіх ён заўсёды вяртаўся пераможцам з вялікай колькасцю ваенных трафеяў.

Лёсам гэтаму воіну было прадвызначана стаць палкаводцам, што не прайграе ніводнай бітвы, абаронцам, пры жыцці якога нага ворага не ступіць у Гародню. Але жонцы не дадзена было зазірнуць у будучыню. І з кожнага баявога паходу чакала Бірутэ свайго Давыда з непакоем і страхам. Хто ведае, магчыма, каханне гэтай жанчыны і было талісманам, што аберагаў у баі мужнага князя?

У Бірутэ і Давыда былі дзеці. На жаль, імёны іх так і не дайшлі да нас. Гарадзенскі каштэлян вельмі ганарыўся сям'ёй. І заўсёды пасля бітваў з радасцю спяшаўся зноў апынуцца сярод дарагіх людзей. Стварыць герою-воіну "надзейны тыл", напэўна, не так ужо і цяжка, калі сапраўды кахаеш яго. Але ці шмат вядома нам герояў, у якіх сямейнае жыццё было б удалым? Сям'я Давыда і Бірутэ з'яўлялася шчаслівым выключэннем. І, магчыма, менавіта з-за таго, што жонка гарадзенскага каштэляна прынесла яму ў пасаг сямейнае шчасце, мы ўспамінаем яе імя і да гэтых часоў з падзякай.

1324 год усё закрэсліў. Напалоханыя смеласцю Давыдавай і яго шматлікімі перамогамі, крыжакі знайшлі, урэшце, магчымасць адпомсціць яму. Тры нямецкія рыцары таемна прывялі ў наваколле Гародні атрад у 600 чалавек. Яны нечакана напалі на радавую сядзібу Давыда, дзе знаходзілася ў гэты час княгіня з малодшымі дзецьмі. Сам Давыд Гарадзенскі быў у паходзе і таму не мог прыйсці на дапамогу сваім блізкім. Да апошняга абаранялі сваю гаспадыню слугі і ахоўнікі. Але сілы былі няроўныя.

Мы не маем звестак пра тое, як сустрэла смерць Бірутэ. Але можна меркаваць, што з годнасцю, вартай жонкі героя. Крыжакі забілі ўсіх — 38 чалавек, узялі ўсю жывёлу, абрабавалі сядзібу і спалілі яе.

Хаця загінулі не ўсе члены сям'і Давыда Гарадзенскага (пра гэта сведчыць існаванне радавога герба нашчадкаў Давыда, выява якога прыводзіцца, дарэчы, у кнізе А.Б.Лакіера "Русская геральдика"), удар быў страшэнным. І боль — вялікім.



• Каложская царква, г. Гародня. Фота У. Панады.

Мяркуючы па звестках, прыводзімых летапісцамі, з гэтага часу паходы Давыда становяцца яшчэ больш частымі, канкрэтна накіраванымі і нават жорсткімі. Давыда вядзе ў бой цяпер стоенае жаданне помсты. Князь ідзе са сваімі воямі на Мазовію і там б'е ненавісных рыцараў. Потым збірае шматнацыянальнае войска для паходу на Брандэнбург. Палякі, пскавічы, беларусы і літоўцы на чале з Давыдам рушаць у Германію супраць агульнага ворага. Яны даходзяць ажно да Франкфурга-на-Одэры.

Легендарны Брандэнбургскі паход Давыду перашкодзіла давесці да канца смерць. Польскі рыцар Анджэй Гост нанёс князю здрадніцкі ўдар кінжалам у спіну. Меркаванні наконт прычыны здрадніцтва ў даследчыкаў самыя розныя. Самай верагоднай нам падаецца гіпотэза М.Ткачова пра тое, што Гост быў падкуплены даўнішнімі ворагамі Давыда, крыжакамі.

Увесь шлях да Гародні воіны Давыда неслі цела свайго палкаводца на шчытах...

Пахавалі героя на ўзвышшы ля Нёмана. Паводле падання, недалёка ад старажытнай Каложы, у зямлі, у якую да гэтага лягла Бірутэ.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА.



• Крыжацкі наезд пад сценамі Навагрsuccesрадка. Акварэль В. Сташчанюка.



## Аляксей Шадзько:

# "Мне пашанцуе яшчэ больш..."

*Аляксей Шадзько — акцёр Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Гаварыць сёння пра нейкую тэатральную вядомасць, "зоркавасць" акцёра яшчэ рана, бо працуе Аляксей у тэатры ўсяго толькі год. Зусім нядаўна, на тэатральным фестывалі краін Балтыі, які праходзіў у Гародні, А. Шадзько быў адзначаны Дыпломам "За лепшае выкананне мужчынскай ролі". А гэтай роляй была пакуль адзіная яшчэ роля маладога артыста ў спектаклі Д. Мeражкоўскага і Б. Луцэнкі "Хрыстос і Антыхрыст" — царэвіча Аляксея.*

*На гэты раз "9х12" прапануе вам бліжэй пазнаёміцца з таленавітым маладым беларускім акцёрам.*

— Нарадзіўся я ў Мінску, у 1962 годзе. Скончыў тэатральна-мастацкі інстытут. Пасля працаваў музыкантам. Спачатку ў Тамбоўскай філармоніі, пасля — у Мінскай. Потым нейкі час не працаваў зусім. І вось ужо год, як я з'яўляюся акцёрам Рускага тэатра імя Горкага. Галоўная роля ў спектаклі "Хрыстос і Антыхрыст" — адзіны пакуль відавочны вынік майго супрацоўніцтва з гэтым тэатрам. Ну, і, акрамя акцёрскай працы, я займаюся, як і раней, музыкай. Спрабую пісаць для спектакляў. Ну, напрыклад, "Жылі-былі дурні" з маёй музыкай, песнямі...

**– Дарэчы, многія, напэўна, Вас лепей ведаюць як спевака. Я маю на ўвазе песню З. Яўтуховіча "Пад зоркаю "Пагоні".**

— Так. Гэтую песню вельмі часта перадаюць па радыё. Магчыма, з тых песень, якія я выконваю, яна найбольш вядомая, але ж не адзіная...

**– Іншымі словамі, Вы сябе знайшлі не толькі як акцёр, але і як музыкант, спявак?**

— Ну, як я сябе знайшоў? Я сябе, мне здаецца, і не шукаў. Я проста вось так працую. І я б не сказаў, што мой лёс складваецца вельмі ўдала. Я спадзяюся, што мне яшчэ больш пашанцуе. Бо я не адчуваю сябе чалавекам, які чагосьці ўжо дасягнуў. Я толькі ведаю, што тое, што я раблю, мне вельмі даспадобы, а значыць, я буду гэта рабіць.

**– Ці можна неяк вызначыць ваша акцёрскае крэда?**

— Калі шчыра, то я не вельмі разумею, што такое крэда. Калі гэта тое, што падабаецца, то мне вельмі падабаецца мая першая і пакуль адзіная роля ў спектаклі "Хрыстос і Антыхрыст". Мне падабаецца пасля спектакля выходзіць да апладзіруючай залы, кланяцца, прымаць кветкі. Увогуле, я толькі дзеля гэтага і працую ў тэатры. І больш не дзеля чаго. Самі ведаеце, нейкага матэрыяльнага здабытку гэта не дае, тут я значна больш зарабляю не тэатрам. А тэатр — гэта, так бы мовіць, прыемнае задавальненне, а таму неабходнасць.

**– Што яшчэ для Вас з'яўляецца прыемным задавальненнем?**

— Люблю іграць на гітары, бегаць па лесе. Люблю ў кампаніі сяброў спяваць песні, асабліва калі просяць аб гэтым.

**– Ці не лічыце Вы сённяшнюю сваю тэатральную працу ў некаторай ступені дарэмнай, бо, згадзіцеся, часцяком можна пачуць: "Не да тэатраў цяпер..."**

— Мне здаецца, грамадства без тэатраў і ўвогуле без мастацтва існаваць не можа. Гэта цяпер у нас такое цяжкае, нейкае незразумелае становішча. Але ж усё роўна чалавек у любых абставінах абавязаны заставацца чалавекам, а значыць, патрэбнасць у прыгажосці не павінна знікаць. І менавіта нараджэнню і захаванню гэтай патрэбнасці і служыць тэатр. Іншая справа сёння — мала добрых спектакляў, цікавых п'ес і рэжысёраў. А тэатр патрэбны. Уявіце сабе на хвіліну, што ўсе тэатры разам закрыліся. Што атрымаецца? Тэатру проста неабходны нейкія перамены. Ну, скажам, на сённяшні дзень у многіх тэатрах вельмі "раздутыя" штаты. Ёсць цэлы спіс людзей, якія без усялякага сэнсу бадзяюцца днямі. А ўвогуле, каб быў у нас сапраўдны тэатр, трэба ўсе існуючыя тэатры спачатку закрыць...

**– Не магу з Вамі пагадзіцца ці не пагадзіцца, бо, калі шчыра, не ведаю ход вашых далейшых думак...**

— Усё вельмі проста. Мы ўжо звыкліся з тым, што тэатр — гэта вялікі будынак, з вялізнымі шэрымі калонамі, з вялікай залай і г.д. А ці так павінен выглядаць сённяшні тэатр? Мне, напрыклад, больш даспадобы варыянт, які існуе на Захадзе: невялікая колькасць людзей, скажам, чалавек пяць—дзесяць, у іх ліку і рэжысёр, ставіць спектакль. Пры адсутнасці сваёй сцэны арандуюць іншую і паказваюць свой спектакль роўна столькі, колькі гэта патрэбна гледачу. Ну, а наконт закрыць... Усё роўна ў любым тэатры знойдзецца некалькі чалавек-аднадумцаў, якія і будуць працаваць, ствараць спектаклі. Але ўжо тыя спектаклі, якія хоча ўбачыць глядач. Гаворачы пра часовае закрыццё тэатраў, я маю на ўвазе абавязковае іх колькаснае скарачэнне, каб адрадзіць само разуменне слова "тэатр"...

**– Што такое асабіста для Вас, Аляксей, тэатральная крытыка?**

— Ведаеце, калі шчыра, мяне гэта не цікавіць. Я ім, крытыкам, проста не веру. Для мяне аўтарытэт — гэта чалавек, які нешта значнае зрабіў. А крытыку я не чытаю. Мне даводзілася часта выступаць на розных фестывалях, у тым ліку і міжнародных, і я ні разу не сустрэў аб'ектыўнае журы. Можа таму я ім — крытыкам, журы — і не даваряю.

**– Вашы адносіны да эратычных сцэн у тэатры?**

— Мастацтва павінна быць эратычным. Яно, як і чалавек, павінна ўбіраць у сябе ўсю гаму пачуццяў. І калі хаця б адно пачуццё "выпадае" — гэта ненармальна. Проста ў паказе эротыкі трэба захоўваць эстэтыку...

**– Ці думалі Вы пра свой далейшы тэатральны лёс?**

— Не думаў. Я не люблю загадваць наперад. І ўпэўнены, што лёс не сплануеш. Раней я неяк спрабаваў што-небудзь перайначыць, і пераканаўся, што з гэтага нічога не атрымалася. Я сёння існую ў прасторы. І на мяне робіць уплыў тое, што складае прастору,— людзі, іх учынкі, надвор'е і г.д. У мяне ўсё адбываецца выпадкова. Вось і ў тэатр я трапіў выпадкова. А самае галоўнае для мяне — быць прафесіяналам. У любой справе, якой ты займаешся. Лёс можа павярнуцца па-рознаму і трэба заўсёды быць гатовым заняць у жыцці іншае месца. Але так заняць, каб яно стала менавіта тваім...

**– Аляксей, апошняе пытанне, якое нарадзілі гледачы. Навошта Вам у левым вуху завушніца?**

— (Смяецца) Мне цяжка адказаць. Я і сам не ведаю. Яшчэ гадоў пяць таму, калі я працаваў музыкантам, пайшла такая мода. Тады і з'явілася завушніца. Праўда, была іншая. А гэтую я зрабіў нядаўна. Мне проста так падабаецца. І, канешне, мне прыемна, што глядач ужо заўважыў, што выканаўца галоўнай ролі ў спектаклі "Хрыстос і Антыхрыст" носіць завушніцу.

**– Ну, а ад свайго імя і ад імя нашых чытачоў, я хачу пажадаць Вам, каб глядач заўважыў у акцёру Шадзько яшчэ шмат чаго новага і цікавага. І запомніў Вас назаўсёды.** •

**Гутарыла Майя Шэндрык,**
**аглядальнік "ЧЗ"**
**па пытаннях культуры.**
***Тэл.: 32-50-01.***

Мой родны кут як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае ўбогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю.

# СВЯТА Ў СМОЛЬНІ

Гэтымі радкамі пачынаецца паэма Якуба Коласа "Новая зямля". Паэт як бы прызнаецца нам, што ў сваіх жыццёвых вандроўках, пошуках ён не знайшоў нічога лепшага, вартага апявання, чым "родны кут" — Стаўбцоўская зямля. І невыпадкова тут, на радзіме песняра, Літаратурны музей Якуба Коласа і Стаўбцоўскі аддзел культуры райвыканкама правялі традыцыйны рэспубліканскі фестываль юных музыкантаў "Сымон-музыка" і літаратурнае свята "Слова пра Коласа", прысвечанае 25-годдзю адкрыцця філіяла Літаратурнага музея ў Смольні.

Прысутныя наведалі Акінчыцы — першае месца жыхарства сям'і Міцкевічаў, месца, дзе нарадзіўся Кастусь, якому суджана было стаць народным паэтам Якубам Коласам. Акінчыцы — гэта калыска жыцця паэта, адсюль пачынаўся яго жыццёвы шлях. Затым госці наведалі Альбуць — мясціну, дзе фарміраваўся паэтычны дар песняра, запаведны "родны кут" паэта, жывая ілюстрацыя яго бессмяротнай паэмы "Новая зямля". І нарэшце — Смольня. Тут адбылося літаратурнае свята "Слова пра Коласа".

— Фестываль юных музыкантаў "Сымон-музыка" ў трэці раз збірае на зямлі Коласа, у Смольні, адораных "іскрай божай дзяцей", — сказала дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа Зінаіда Мікалаеўна Камароўская.— Гэты маляўнічы куточак Наднямоння натхніў паэта на стварэнне паэмы "Сымон-музыка. Тут адбылася ў 1912 годзе першая сустрэча двух волатаў зямлі беларускай — Якуба Коласа і Янкі Купалы... У Смольні была адноўлена сядзіба, дзе жыла маці Якуба Коласа. У мемарыяльнай хаце размясціліся рэчы, якімі карысталася сям'я Міцкевічаў. Побач з хатай шумяць пышным уборам ліпы, пасаджаныя Якубам Коласам пад час яго вяртання з турэмнага зняволення. У двухпавярховым будынку, узведзеным на мемарыяльнай сядзібе, размешчана літаратурная экспазіцыя...

На свята прыехалі сыны Якуба Коласа, унукі і праўнукі. Хвалюючай і для іх была сустрэча са Стаўбцоўскай зямлёй. Вось як сказаў старэйшы сын песняра Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч:

— Мне вельмі прыемна зноў наведаць Стоўбцы, Акінчыцы, Альбуць, Смольню... Тут усё помніць свайго паэта, тут кожная мясціна адзначана яго прысутнасцю, апета яго геніем, тут жыве яго неўміручая паэзія. Якуб Колас шырока ўжыў біяграфічныя і аўтабіяграфічныя моманты ў сваёй паэме "Новая зямля". Мне асабліва прыемна, што на Стаўбцоўшчыне шмат зроблена па ўшанаванню памяці Якуба Коласа. Тут адкрыты філіялы Літаратурнага музея, калгас носіць назву "Радзіма Якуба Коласа". У вёсцы Мікалаеўшчына ўстаноўлены помнік. І хочацца верыць, што гэтая зямля з такой непаўторнай, маляўнічай прыродай падорыць нам яшчэ не аднаго таленавітага пісьменніка, паэта, музыканта...

Цікавымі былі ўспаміны кампазітара А.В. Багатырова.

— Я пазнаёміўся з Якубам Коласам, калі вучыўся ў кансерваторыі,— апавядаў Анатоль Васільевіч.— Адбылося гэта так. Я прачытаў аповесць "Дрыгва" і мне вельмі захацелася напісаць музыку на гэты твор. Тады я і вырашыў сустрэцца з пісьменнікам і папрасіць яго напісаць лібрэта. У той час Колас быў віцэ-прэзідэнтам АН Беларусі. Канстанцін Міхайлавіч уважліва выслухаў мяне і далікатна зазначыў, што сам не зможа, але пазваніў Рамановічу, які і дапамог мне. Якуб Колас увесь час цікавіўся, як у мяне ідуць справы, нават перад прэм'ерай хваляваўся і не спаў цэлую ноч. Прэм'ера мела поспех. Затым опера па аповесці "Дрыгва" прагучала на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве.

Многа слоў пра Якуба Коласа і яго творчасць сказана было пісьменнікам Максімам Лужаніным, міністрам замежных спраў Пятром Кузьмічом Краўчанкам, паэтам, дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі Анатолем Вярцінскім, дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея архітэктуры і побыту Георгіем Андрэевічам Ткацэвічам, пісьменнікам Барысам Сачанкам, намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў рэспублікі Уладзімірам Паўлавым, супрацоўнікамі музея Янкі Купалы.

— Мне вельмі прыемна, што на 25-годдзе філіяла Літаратурнага музея Якуба Коласа, якое святкуецца сумесна з Рэспубліканскім фестывалем юных музыкантаў "Сымон-музыка", прыехала больш за 700 юных талентаў,— сказаў загадчык Стаўбцоўскага аддзела культуры райвыканкама Анатоль Васільевіч Грэкаў.— Сярод іх — прадстаўнікі з Гомельскай, Магілёўскай, Гродзенскай, Віцебскай абласцей, госці з Уладзіміра, Светлагорска. Мы, землякі песняра, робім усё магчымае, каб слава пра Якуба Коласа разыходзілася па ўсім свеце.

Амаль да вечара ў гэты дзень у Смольні чулася музыка, песні. Лёгка дыхалася паветрам, напоўненым водарам вясны, кветак, духмяных траў, лесу. Міжволі прыгадваліся радкі Якуба Коласа:

Малюнкі родныя і з'явы!
Як вы мне любы, як цікавы!
Як часта мілай чарадою
Вы ўстаяце перада мною!

Заключны канцэрт вялікага свята на Стаўбцоўшчыне адбыўся ў Старасвержанскім сельскім Доме культуры. Пераможцу рэспубліканскага конкурсу юных музыкантаў "Сымон-музыка" фальклорнаму калектыву "Хожава" Маладзечанскага раёна была ўручана грашовая прэмія Літаратурнага музея Якуба Коласа, заснаваная ўпершыню ў сёлетнім годзе. Дыплом першай ступені атрымаў фальклорны калектыў "Сонейка" Ельскага раёна Гомельскай вобласці. Дыпломаў II ступені ўдастоіліся калектывы: квартэт Стаўбцоўскай школы мастацтва, фальклорны калектыў Вілейскай музычнай школы, ансамбль народных інструментаў Дружнянскай музычнай школы Пухавіцкага раёна, фальклорны ансамбль Любанскай музычнай школы, квартэт духавых інструментаў Дзяржынскай музычнай школы. Пераможцы былі ўзнагароджаны грашовымі прэміямі аргкамітэта. Дзесяць тысяч рублёў ад імя ўдзельнікаў і арганізатараў свята было адпраўлена на тэлемарафон "Выратуем дзяцей ".

**Л. Бяляцкая.**





НА ЗДЫМКАХ: у час свята; сыны Я. Коласа Міхась і Даніла Міцкевічы.
**Фота В. Савіча.**

# Просіць дапамогі... ВАДЗЯНІК

Майго субяседніка, палкоўніка запасу З-нага, пагранічніка, адзначанага ўрадавымі ўзнагародамі (у тым ліку і за затрыманне парушальніка граніцы), язык не павернецца назваць пустым фантазёрам ці містыфікатарам. Аднак гісторыя, якую ён распавёў, востра патыхае небыліцай. Палкоўнік клянецца, што ўсё тое, што адбылося з ім у 1963 годзе ў кагульскіх плаўнях, што размешчаны непадалёк ад савецка-румынскай граніцы, — праўда ад пачатку да канца. Толькі праз 28 гадоў ён рашыўся расказаць пра гэта, ды і то не рызыкнуў абнародаваць сваё прозвішча — баіцца, што былыя таварышы па службе падумаюць, што ён, так бы мовіць, не ў ясным розуме. Па гэтых жа прычынах З-ны ў свой час не далажыў аб здарэнні начальству, хаця як афіцэр-пагранічнік павінен быў гэта зрабіць.

Перадам ягоны расказ па магнітафоннаму запісу з невялікімі скарачэннямі і лёгкай стылістычнай праўкай.

— Хлопец я быў тады яшчэ нежанаты, лейтэнант бязвусы, сілы хоць адбаўляй. Панадзіўся на золку, калі служба дазваляла, паляваць у плаўнях — вялізных азёрах, зарослых чаротам. Страляў качак, вадзяных курачак. Бывала, хадзіў і лавіць рыбу.

У той вераснёвы дзень зарадзіў я сваю 12-калібравую "тулку", падперазаўся патранташам. Бутэрброд, аптэчку — у бушлат, балотныя боты — да задняга сядзення матацыкла, і паехаў. Ад'ехаў кіламетраў дваццаць ад мяжы, матацыкл — у кювет, абуў боты і ўвайшоў у плаўні. Раблю засаду больш выгадную, надзейную.

У той час, трэба сказаць, у плаўнях каля Кагула (гэта на поўдні Малдовы.—А. К.) поўным ходам ішлі меліярацыйныя работы.

За спінай у мяне застаўся шлях, па якому я прыехаў, злева наперадзе — экскаватар, які стаяў на невялікай штучнай дамбе.

Цішыня, шамаціць чарот... але што гэта? Чую нейкія стогны. Прыслухаўся: чалавек, здаецца.

Першая думка была банальная і пошлая — напэўна, экскаватаршчык напіўся ўвечары, а раніцай яму холадна стала, стогне ў сне, гаротнік. Але трэба паглядзець: граніца ўсё ж.

Крочу ў бок экскаватара, боты — чаўк, чаўк. І раптам мяне ў халодны пот кінула ад нечаканасці. Я хаця і атэіст, а тут крыж на сябе наклаў: ратуй, Госпадзі! На плаваючай "ляпёшцы" ляжыць жудаснага выгляду чалавекападобная істота. Чорна-карычневага колеру цела, масляністае нейкае, доўгія, брудныя, зблытаныя валасы, барада да пупа, уся ў зялёнай ціне, знешне бачна, наколькі істота гэтая была пааблепленая п'яўкамі... А правая рука яго (гэта быў мужчына, абсалютна голы) уся ў крыві. Стогне, відаць, баліць.

Я падыходжу бліжэй, але на ўсялякі выпадак узвёў куркі. Бачу, вочы ўсе ў чырвоных пражылках, як у п'янага чалавека, можа, ад болю. Ён апрытомнеў нібыта і звярнуўся да мяне: ні то забулькаў, ні то заквакаў. Прыўзняў здаровую руку, паказвае на рану, і тут мяне зноў у пот кінула: гляджу, а паміж пальцаў на руках у яго — перапонкі, як у качкі. Потым ён мне сваімі пальцамі перапончатымі на экскаватар паказвае і нешта сваё булькае, быццам бурбалкі пад вадой пускае. Тут я здагадаўся, што напярэдадні, пад час меліярацыйных работ яго зачапіла каўшом і параніла, вось ён і "расказвае".

Падышоў я да яго, выцягнуў паляўную аптэчку, зрабіў укол ад слупняку — ён нават не ўздрыгнуў — ачысціў параненую руку ад п'явак, перавязаў руку вышэй ірванай раны жгутом. Бачу, ківае галавой, дзякуе. Праз некалькі хвілін ён адчуў сябе лепей, сеў на чаротным востраве, выцягнуў ступні з вады, і тут я ўбачыў, што ногі ў яго як ласты — вялікія, перапончатыя.

Ён надламаў чарацінку, зрабіў з яе дыхальную трубку і імгненна спінай пайшоў пад ваду, ледзь не зачапіў мяне па ботах, і больш я яго ніколі не бачыў.






















Сніўся потым часта — як ён сядзіць увесь у п'яўках, перапончатай далонькай махае і булькае-квакае...

Магнітазапіс гэтага расказу былога пагранічніка я прапанаваў паслухаць вядомаму ў навуковых колах спецыялісту—этнографу, збіральніку старажытных кніг і сведчанняў аб рэдкіх выпадках Геворку Грыгарану (Ерэван). Вось як ён пракаменціраваў гэтую падзею:

— Штосьці падобнае, паводле сведчанняў старажытных крыніц, можна было сустрэць у XV—XVI стагоддзях на старажытным армянскім возеры Ван (зараз тэрыторыя Турцыі. Падарожнікі-відавочцы пакінулі апісанні вадаплаваючых людзей з характэрнымі перапончатымі рукамі і нагамі.

Некаторыя вучоныя, у прыватнасці Майкл Віржанскі (ЗША), лічаць, што верагодна глыбока законспіраванае існаванне людзей-амфібій. Па шэрагу прычын замацаваліся мутацыі, якія.. далі магчымасць прыстасавацца да воднага асяроддзя. Калі гэта адбылося — сказаць цяжка. Але, паколькі даследаванні фальклорыстаў даказалі, што народныя вераванні пра русалак, вадзянікаў і лесуноў маюць адзін "узрост", то можна дапусціць, што ўсе тры галіны людзей — чалавек разумны, "снежны чалавек" (лясун у рускім фальклоры) і "вадзяны чалавек" — адпачкаваліся ад агульнага продка, прычым амаль адначасова.

Аднак я — прыхільнік іншай версіі, працягваў Геворк Грыгаран. Аналаг гісторыі, якая адбылася з пагранічнікам З-ным, я знайшоў у французскім навуковым часопісе амаль 60-гадовай даўнасці. У той публікацыі распавядалася пра нейкага грамадзяніна Франсуа (імя ўмоўнае), беспрацоўнага і бяздомнага чалавека, "бомжа", як бы мы яго сёння назвалі. Гэты чалавек, псіхічна нездаровы, пасяліўся ў напаўзатопленым катэры, недалёка ад Парыжа.

Калі да яго набліжаліся людзі, ён ныраў у ваду і дыхаў праз гумавую трубку з самаробным паплаўком наверсе, некалькі гадзін мог знаходзіцца пад вадой. Харчаваўся чайкамі, якіх лавіў і сырымі еў.

Калі ён загінуў у выніку няшчаснага выпадку (стукнуўся галавой аб край катэра), французскія медыкі даследавалі яго і выявілі, што ад доўгага сядзення пад вадой скура на пальцах ягоных рук і ног выцягнулася і ператварылася ў нешта вельмі падобнае на перапонкі. Нешта падобнае вядома судовым экспертам — у тапельцаў на руках з'яўляецца "пальчатка смерці".

Падабенства гэтых двух выпадкаў і ў тым, што "вадзянік" у Францыі таксама не размаўляў, наогул быў глуханямым. Што тычыцца істоты з кагульскіх плаўняў, то яна, магчыма, таксама мела прыроджаны дэфект мовы, што ўзмацніла яе адчужэнне, нежаданне жыць у грамадстве. У выніку — чалавек-выдра, чалавек-бабёр, які жыве збіральніцтвам і прымітыўным паляваннем.

Хаця... падзея гэта адбывалася недалёка ад граніцы, магчыма, штосьці захоўваецца ў сакрэтных архівах, хто ведае?..

**Аляксей Казакоў.**

*Рэпартаж з "замагільнага" свету*

## Хто ты, старажытны ідал?

Гэта адбылося ў поўдзень у рэспубліканскім краязнаўчым музеі. Звыклую дрымотную цішыню музейнай залы неспадзявана разарваў жаночы лямант... На крыкі прыбеглі спалоханыя служачыя і ўбачылі ў зале, дзе знаходзяцца старажытныя каменныя статуі, рыдаючую жанчыну... І больш нікога.

Яна працягвала ўверх рукі, сутаргава спрабавала нешта сказаць. Здавалася, нейкая невядомая сіла прымушае цела жанчыны біцца на каменнай падлозе. З вялікай цяжкасцю невядомую наведвальніцу супакоілі. Далі ёй вады, адвялі ў кабінет. Але, апрытомнеўшы, яна не здолела толкам растлумачыць, што ж з ёй адбылося.

Не, яна не была хворай. І ў зале, дзе, акрамя яе, не было нікога, таксама ніхто не мог яе напалохаць. А напалохалі, як растлумачыла жанчына, самі каменныя ідалы. Яна раптам адчула, як нешта таямнічае, невядомае, нейкая загадкавая сіла раптам навалілася на яе і прымусіла ўпасці на падлогу.

Дарэчы, гэта ўжо не першы выпадак у Хакаскім рэспубліканскім музеі. Людзі, што траплялі ў залу, дзе захоўваюцца каменныя скульптуры — ідалы старажытных магільнікаў, раптам пачыналі паводзіць сябе самым незвычайным і непрадказальным чынам. Незадоўга да таго прыезджы мастак з Кыргызстана, вырашыўшы намаляваць некалькі высечаных на камені масак, раптам адчуў, што праз некалькі хвілін пасля пачатку працы з ягоных вачэй пацяклі слёзы, пачалося нервовае пазяханне. Мастака пачало кідаць з боку ў бок, і ён бягам кінуўся з залы, напалоханы невядома кім.

Паводле назіранняў супрацоўнікаў музея, такія таямнічыя з'явы ў "зале каменных статуй" адбываюцца не з кожным наведвальнікам, а толькі з тымі, хто вельмі эмацыянальны, лёгка ўзбуджаецца. Вось таму і прыйшла ідэя запрасіць у музей каго-небудзь з народных лекараў, якія ведаюць, як абыходзіцца са старажытнымі духамі. Вядомая ў Сібіры народная лекарка з Тувы Л. Баргаякава, даследуючы выстаўленыя ў музеі старажытныя скульптуры, зрабіла першае адкрыццё: кожная з гэтых змрочных статуй — зусім не халодны мёртвы камень, а мае ўласнае энергетычнае поле. Асабліва моцна гэтае поле адчуваецца ў асобных статуй, на якіх выяўлены старажытныя богі. Напрыклад, у каменя з выявай сонечнага Бога старажытных хакасаў. Выпраменьванне ад гэтага каменя лекарка адчула ўжо ля ўваходу ў музей. Яе ацэнкі пацвердзілі і іншыя экстрасенсы. Падыходзячы да статуй, некаторыя з іх адчувалі лёгкія ўкольчыкі і нібыта патрэскванне нябачных электрычных іскраў каля далоняў. Даведаўшыся пра незвычайныя з'явы, у музей прыйшоў археолаг, доктар гістарычных навук Я. Сунчугашаў, спецыяліст па праблемах біяэнергетыкі. Дык вось ён правёў мініаналіз асяроддзя вакол статуй, і кожны раз рамка ў руках прафесара пачынала круціцца, як толькі ён набліжаўся да той ці іншай скульптуры. Усё ясна: ад статуй ідзе моцны струмень энергіі.

Ідалы ў музей былі звезены з розных месцаў рэспублікі, у асноўным з Хакаска-Мінусінскай катлавіны. Больш нідзе ў свеце такія статуі не сустракаюцца. Яны былі ўстаноўлены на старажытных капішчах больш як 5 тысяч гадоў таму. Мясцовыя жыхары здаўна пакланяліся гэтым бажаствам.

Цяпер старажытныя легенды атрымліваюць навуковае пацвярджэнне. Дарэчы, адна з супрацоўнікаў музея Л. Угдыжэкава адчула на сабе жыватворны ўплыў адной са статуй — Вялікай каменнай старой — так перакладаецца яе назва з хакаскага. Яна распавядае: варта толькі ў хвіліну стомленасці, нервовага стрэсу падысці і прытуліцца на хвілінку да Каменнай старой ці пакласці на яе каменны бок руку, як хутка адчуваеш, што па ўсяму целу разліваецца цеплыня, сілы адразу аднаўляюцца.

**Ю. Угалькоў,**
Рэспубліка Хакасія.

*З залы суда*

## “Бізнес” па-пінску




Для Марыі Аляксандраўны Жук, загадчыцы магазіна № 11 Пінскага гарплодаагароднінагандлю, той месяц з'явіўся катастрафічным. Скончыўся квартал, а магазін не выконваў план па рэалізацыі тавараў на суму каля 15 тысяч рублёў.

Тут і ўспомніла загадчыца магазіна, што ў суседзяў з Львоўскай вобласці можна хутка “загнаць” вялікую колькасць дэфіцытнага сметанковага масла. Яна прапанавала вадзіцелю аўтабазы гарплодаагароднінагандлю М. Гусаку прадаць там 1020 кг масла. Апошні не прымусіў сябе ўгаворваць.

Масла было прададзена на рынку горада Нікалаева Львоўскай вобласці. Вяртаючыся дамоў, Мікалай Іосіфавіч заехаў на рынак горада Львова, дзе, напэўна, забыў, што вырučаныя за масла грошы належаць магазіну № 11 Пінскага гарплодаагароднінагандлю, а не яму ўласна. На гэтыя грошы ён купіў сабе вопратку, некалькі дзіцячых цацак.

Вярнуўшыся дадому, выявіў, што ім растрачана 700 рублёў дзяржаўных грошай, якія паабяцаў вярнуць, але не вярнуў. Аднак праз некалькі дзён Марыя Аляксандраўна зноў даручыла Гусаку прадаць той жа прадукт у той жа колькасці. Рэалізаваўшы масла, той і зусім знік разам з грашыма. Каля трох месяцаў хаваўся ў сваіх родных у Карэліі. Аднак папулярная прымаўка перыяду перабудовы “Грошы прыходзяць і знікаюць, а мы застаёмся” спрацавала і на гэты раз. Скончыліся грошы і ў Мікалая. Перад ім адкрыліся два шляхі: прызнаць сваю віну або яшчэ больш загразнуць у злачыннай ціне. Перамог усё ж цвярозы розум. Пінскім гарадскім судом за крадзеж даручанай яму дзяржаўнай маёмасці ў буйных памерах Гусак М.І. асуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі.

Зло, як гаворыцца, пакарана. Аднак ці ўсё?

У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам забараняецца даручаць тавары нематэрыяльна адказным асобам (і тым больш раней судзімаму, якім з'яўляецца Гусак), а вывозіць тавары за межы Рэспублікі Беларусь забараняецца любому грамадзяніну. Пра гэта не маглі не ведаць загадчыца магазіна М.А. Жук і кіруючыя работнікі Пінскага гарплодаагароднінагандлю, якія дазволілі выезд аўтамашын з таварамі за межы рэспублікі.

**Л. Гранкоўскі.**

*Інфа-крым*

## “Ствалы” на парты!

Гады тры таму ў адной са школ Брэсцкай вобласці суровы чалавек у міліцэйскіх пагонах правёў арыгінальны эксперымент. Напачатку ўрока ён даў такую каманду: “Ствалы” на парту!" Эксперымент удаўся. З некаторых партфеляў і сумак з'явіліся пісталеты і патроны.

Тады гэтая падзея не выклікала асаблівага шуму, што сведчыць пра наступнае: мы паціху пачынаем прывыкаць да крымінагеннай сітуацыі ў маладзёжным асяроддзі. Возьмем хоць бы афіцыйную статыстыку па Мінскай вобласці. За мінулы год на рахунку непаўналетніх — 1362 злачынствы. Відавочна, што толькі міліцэйскімі мерамі маладзёжную злачыннасць не спыніць. Гэта нарэшце пачынаюць разумець і маючыя ўладу. Напрыклад, у 150-тысячным Барысаве непаўналетніх імкнуцца працаўладкаваць: папросту заняць іх рукі справай, далей ад граху. Тут кінулі развагі на вечную тэму, хто вінаваты: сям'я, школа ці грамадскасць, і пачалі займацца канкрэтнай справай. Малое прадпрыемства “Булат”, да прыкладу, прадаставіла непаўналетнім 17 працоўных месцаў. У мэблевым кааператыве “Эдэльвейс” усе 60 рабочых — падлеткі. І такіх прыкладаў шмат. Дарэчы, сярод многіх дзесяткаў працаўладкаваных юнакоў і дзяўчат 22 стаяць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх, а 9 з іх — раней судзімыя.

**А.Сушчэня.**

У бюро дзяжурыў П.Сіманаў.

## Зноў партызаны?

Вось і надышло лета. Сёлета яно, магчыма, будзе адзначана адраджэннем партызанскага руху на Беларусі. Ва ўсялякім выпадку, ужо ёсць падставы так меркаваць. Напрыклад, у ноч на 25 мая невядомыя праніклі ў філіял Барысаўскага аб'яднанага музея народнай славы, што ў вёсцы Іканы, і выкралі разам з ордэнамі і медалямі аўтамат ППШ і кулямёт Дзегцярова.

## Маленькі сакрэт вялікай кампаніі

Пасля апоўначы 25 мая супрацоўнікі міліцыі Жодзінскага ГАУС затрымалі ў час крадзяжу гуманітарнай дапамогі са сховішча Жодзінскага гарплодаагароднінагандлю ажно дзесяць чалавек. Старэйшаму з затрыманых, рабочаму будаўнічага трэста,— 24 гады; малодшым, двум навучэнцам мясцовага палітэхнікума і нідзе не працуючаму,— па 16. Акрамя іх, у кампаніі сямейная пара, прадавец магазіна, нянечка дзіцячага садка і жанчына, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. Пры затрыманні супрацоўнікі міліцыі былі вымушаны прымяніць зброю.

## Сантэхнічнае злачынства

У ноч на 22 мая нехта пранік у недабудаваны дом у вёсцы Качына Мінскага раёна. Выкрадзена гумавая лодка, чатыры скрыні пліткі і (слабанервных просім не чытаць) унітаз.



*Навіны з даўніны*

*Навіны з даўніны*

### Дзёрскае забойства і грабеж

ажыццёўлены ў Віцебску ў пятніцу, 21 красавіка, на адной з галоўных вуліц горада недзе паміж 8 і 9 гадзінамі вечара. У суботу раніцай адзін з лепшых магазінаў сярэбраных, залатых і брыльянтавых вырабаў купца Грываса, што знаходзіцца на Смаленскай вуліцы, аказаўся абрабаваным, а стары прыказчык Шолам Марковіч і яго жонка – задушанымі. Час злодзеі выбралі вельмі зручны – калі яўрэі сядзяць за вячэрай у кватэрах. Калі ўлічваць тое, што ў гэты час было яшчэ даволі светла, то трэба згадзіцца, што такое дзёрскае злачынства ў Віцебску – рэч даволі новая і зусім не па сезону, таму што крадзяжы з узломам звычайна адбываюцца ў пачатку зімы і ранняй вясной, цёмнымі начамі.

Судовыя ўлады і паліцыя пачалі пошук злачынцаў і заняліся вопісам маёмасці для вызначэння нарабаванага. Ужо выяўлена нястача тысяч на 10, але праверка яшчэ не завершана. Усе гэтыя дні перад магазінам стаіць вялікі натоўп, прагна заглядваючы ў вокны, іврвучыся на двор, так што паліцыя ледзь спраўляецца. Мясцовае насельніцтва вельмі ўстрывожана гэтым нечувальным дагэтуль злачынствам, уся паліцыя паднята на ногі, але пакуль яшчэ нічога не адкрыта.

### Падкідышы

30 красавіка, увечары, на ст. Мінск Лібава-Роменскай чыгункі, у вагоне знойдзена падкінутае дзіця мужчынскага полу, каля 3 тыдняў ад нараджэння, хлопчык адпраўлены ў кантору богаўгодных устаноў.

2 мая, на Скобелеўскай вуліцы, каля дома Мінкоўскага знойдзена падкінутае дзіця мужчынскага полу, каля году ад нараджэння, якое перададзена Мінкоўскаму на выхаванне, згодна з яго жаданнем.

### Парушэнне санітарных правілаў

30 красавіка прыцягнуты да адказнасці ў міравога суддзі мяснік Абрам Лядэр за тое, што стол меў брудны выгляд.

### Гандаль пад час богаслужэння

30 красавіка прыцягнуты да адказнасці ў міравога суддзі гандляры Невах Шапіра і Цевель Рубенчык за гандаль пад час богаслужэння.

### Пажар

1 мая, у 11 гадзін вечара, на Крашчэнскай вуліцы, у доме Фрэнкеля і Заблудоўскага загарэлася сажа ў коміне, агонь спынены дамашнімі сродкамі, а гаспадары прыцягнуты да адказнасці за няспраўнае ўтрыманне коміна.

*("Мінскі лісток" № 36, 4 мая 1890 г.)*

Падрыхтаваў Сяргей Вішнеўскі.

*6 сотак*

# Парады дачнікам

Вясна ў разгары. Зацвіў падбел. Адзначце гэту падзею — звычайна на 32-гі дзень пасля гэтага яблыня распусціць кветкі. Груша, вішня і сліва зацвітаюць на 2—3 дні раней. Да гэтага часу патрэбна ў садзе прыгатаваць дымавыя кучы, каб дымам засцерагчы пяшчотныя кветкі і завязь ад ранішніх вясновых замаразкаў.

У садзе яшчэ раз уважліва агледзьце пладовыя дрэвы і ягадныя кусты, спаліце засохлыя і хворыя галінкі. Звычайна лічаць, што вясною ў глебе хапае вільгаці, але калі дзён 10 стаяла сухое і сонечнае надвор'е, на лёгкіх глебах пачынае адчувацца яе недахоп. Адначасова з палівам карысна правесці падкормку азотнымі ўгнаеннямі: мачавінай, аміячнай вадой, гнаявой жыжкай, якую разводзяць у тры-чатыры разы вадой.

Многія садаводы трымаюць глебу ў прыствольных кругах дрэў у паравым стане. Вясной абавязкова перакапайце яе, але ў адрозненне ад перакопкі восенню, калі пакідаюць камячкі, правядзіце баранаванне граблямі ці культыватарам: рыхлая здробненая глеба лепш захоўвае вільгаць. Калі прыствольныя кругі былі мульчыраваны апілкамі, то іх неабходна згрэбці, перакапаць глебу, а затым зноў разраўняць зверху апілкі. Закопваць іх непажадана — на гніенне пойдзе шмат неабходнага дрэвам глебавага азоту.

У садах, якія размешчаны на глебах з вялікай колькасцю вільгаці або ўдосталь забяспечаны штучным палівам, глебу ў прыствольным крузе прапануем засеяць травой — аўсяніцай лугавой, цімафееўкай, жытняком, мятліцай, белай канюшынай. Перыядычна траву падкошваюць.

У пачатку мая заканчваюць сяўбу ранніх агароднінных культур: морквы, пятрушкі, салаты, радзькі, рэпы, буракоў і гароху, а таксама пасадку цыбулі-сеянкі. Не забудзьце па краях градкі з гарохам праз 30—35 см уваткнуць калкі і па дыяганалі на вышыні 20—25 см нацягнуць тонкую вяроўку, каб атрымалася нешта падобнае на сетку. Гэта захавае пасевы ад шпакоў. Яны і вароны вельмі любяць паласавацца пяшчотнымі ўзыходамі гароху.



## Май

Час прыступаць і да ўборкі першага ўраджаю мнагалетніх агароднінных культур: шчаўя і рэвеню. Лісце рэвеню з чаранком не трэба зразаць або адломваць — толькі вырываць. З маладога лісця рэвеню гатуюць бацвінне, а з чаранкоў — кампоты, кісялі, морс, квас, вараць варэнне. Каб рэвень даваў буйное і сакавітае лісце — падкарміце яго. На вядро вады бяруць 1-2 кг каравяку і 2 запалкавыя пачкі мачавіны або аміячнай салетры — гэтага дастаткова для падкормкі 3-4 кустоў рэвеню. Фосфарныя ўгнаенні ўносіць нельга: яны выклікаюць утварэнне непрыдатных да ежы кветкавых стрэлак.

Не грэбуйце маладой крапівою, якая ў гэты час буйна расце на багатых перагноем месцах. Толькі крапіва дае "зялёнаму бацвінню" па-сапраўднаму яркую фарбу, бацвінне са шчаўя або шпінату без дабаўлення крапівы атрымліваецца зеленаватарыжым. У крапіве акрамя карысных рэчываў, ёсць каштоўныя солі жалеза, якія неабходны ўсім нам, а асабліва дзецям. Крапіву можна нарыхтоўваць у запас з соллю, як і шчаўе.

У пачатку мая (у сярэдняй паласе — з 5 па 15 мая) ужо высаджваюць у грунт пад плёнку раней прыгатаваную расаду гуркоў, кабачкоў, гарбузоў. Для гэтай мэты зручныя парнікі тунельнага тыпу, якія прадаюцца ў магазінах (даўжынёю ў 2 або 5 м). Можна зрабіць парнічок і самім, нацягнуўшы плёнку на дугі з дроту (дыяметрам ад 4 да 6 мм). Не забудзьце перад тым, як устанавіць дугі, пафарбаваць іх масляна фарбай або пячным (бітумным) лакам, каб не ржавелі.

Бульбу саджаюць з таго моманту, як пачне распускаць лісточкі бяроза, і да пачатку цвіцення чаромхі. Перакопваць глебу для пасадкі бульбы лепш не раніцай, а пасля абеду, калі верхні пласт яе добра прагрэецца. Ды і саджаць бульбу таксама лепш пасля абеду. Тады клубень трапіць у цёплую глебу і не толькі дасць усходы на 2—3 дні раней, але прабудзіць больш вочкаў, якія яшчэ спяць, лепш разаўе каранёвую сістэму.

Каб мець пяшчотнае зяленіва да стала, не забудзьце ў пачатку мая другі раз пасеяць кроп.

# Маладой гаспадыні

У кожнай гаспадыні знойдзецца сярэдняй велічыні жароўня. У яе пакласці на дно паўкілаграма ялавічыны, лепш за ўсё тлустай маладой грудзінкі. Зверху шчыльна размеркаваць наскрыляную папярэдне абабраную і добра вымытую бульбу — даверху, але так, каб накрыўка лёгка і шчыльна закрывалася. На скрылёчкі бульбы кінуць з дзесятак гарошын чорнага духмянага перцу, затым усю паверхню пакрыць слоем здробненай рэпчатай цыбулі (2—3 цыбуліны сярэдніх памераў). Пасаліць. Заліць усё халоднай вадой да паловы аб'ёму жароўні. Накрыць і паставіць жароўню на невялікі агонь на гадзінупаўтары. Затым зняць з агню і пакласці тры-чатыры лаўровыя лісты. Цяпер усё гатова для тушэння. Пастаўце жароўню ў духоўку і пры тэмпературы 200—250 градусаў тушыце гадзін пяць. Жароўню трэба кожныя гадзінупаўтары выцягваць з духоўкі і падтрасаць (зачыненую). Разам з гэтым можна праверыць, ці дастаткова вады, ці хапае солі. Калі вады мала ці ўжо зусім няма, бульба будзе сухой і не такой смачнай, таму трэба дадаць вады. Канчатковая гатоўнасць вызначаецца не тым, колькі часу мінула, а па колеру: гатовая бульба становіцца залацiста-карычневай. А калі да яе яшчэ падаць марынаваныя гурочкі, памідоры хатняга прыгатавання...

## Замест шапачкі

Набіраеце 25 вочак (9см), вяжаце 10 см і пачынаеце спускаць па адным вочку ў кожным вонкавым радзе на правым краі вырабу. Калі на прутку застанецца 12 вочак, спуск спыняецца і, правязаўшы яшчэ 10 см, пачынаеце дабаўляць па адным вочку ў кожным вонкавым радзе на правым краі вырабу. Калі на прутку будзе 25 вочак, дабаўку спыняеце і вяжаце яшчэ 10 см. Закрываеце вочкі і сшываеце бакі. Каб палоска не скочвалася ў трубачку, рэкамендуецца па тры вочкі з кожнага краю вырабу (без уліку пругавых) вязаць хустачнай вязкай, астатнія вочкі — панчошнай (спускаць, дабаўляць вочкі пасля хустачнага ўзору).

Можна звязаць па-іншаму: набраць 32 вочкі (улічваючы пругавыя) і вязаць рызінкай 3х3 палоску даўжынёй 48 см. Асобна вяжыце палоску той жа вязкай, але з 15 вочак даўжынёй у 9 см, сшыйце з яе колца і працягніце ў яго доўгую палоску. З'яднайце яе канцы, шво схавайце ў колцы.

# Хатняму майстру




- Трубу, якая ляжыць на зямлі або праходзіць у куце, фарбаваць пэндзлем цяжка: ніяк да яе не дабярэшся. Для такога выпадку сшыйце сабе цыгейкавую рукавіцу футрам наверх. Рукавічку надзяваюць на руку, акунаюць у фарбу і, рухаючы ўздоўж трубы, лёгка прафарбоўваюць яе з усіх бакоў.
- Паспрабуйце нашываць на фіранкі не металічныя колцы, а мяккія пластмасавыя. Іх наразаюць з вінных коркаў. Фіранкі тады можна мыць у пральнай машыне, не спорваючы колцаў.
- Пад час варкі павідла ля таза з прадуктам пастаўце вентылятар. Струмень паветра, накіраваны на паверхню, адносіць пар убок, у выніку чаго павідла хутчэй уварваецца, не распырскваецца, амаль не падгарае.
- Выкарыстайце такі спосаб сушкі грыбоў. Трэба зрабіць з ліставога металу дзве П-падобныя дэталі. У бакавых сценках адной прасвідроўваецца па 11 адтулін, у якіх будуць трымацца шпажкі з нанізанымі грыбамі. Гэта дэталь ставіцца на электрапліту і закрываецца другой дэталлю. Тэмпература сушкі рэгулюецца пераключэннем рэжымаў электрапліткі.
- Калі вы жадаеце заўсёды мець пад рукой невялікі запас цэменту, адразу пасля пакупкі запакуйце папяровы мяшок або загарніце яго плёнкай. Абаронены ад вільгаці цэмент захоўваецца ў добрым стане некалькі гадоў.
- Каб захаваць зяленіва свежым доўгі час, зрабіце так: зяленіва вымыйце, дайце вадзе сцячы, загарніце ў паперу (не вошчаную) і пакладзіце ў поліэтыленавы пакет. У ніжнім аддзяленні халадзільніка яна будзе захоўвацца 2-3 тыдні.
- Драўляная прышчэпка для бялізны, наклееная на ўнутраны бок дзверцы кухоннай шафы, будзе зручнай прыхваткай для пакетаў, сурвэтак і іншых дробязей.
- Пры прасаванні сінтэтычных тканін на гарачым прасе атрымліваецца цяжкавыдалялны карычневы налёт. Для выдалення налёту трэба крыху нагрэць прас і працерці яго вільготнай анучай з пастай для чысткі ракавін "Чысголь". Тую ж праблему можна вырашыць з дапамогай парашку пітной соды.
- Вось спосаб падаўжэння антэннага дроту для тэлевізара. Да аднаго канца дадаткова адрэзка дроту прыпайваюць антэннае гняздо ад тэлевізара (прадаецца ў радыёмагазінах), да другога – штэкер. Застаецца з'яднаць штэкер антэны з гняздом падаўжальніка, а штэкер падаўжальніка з тэлевізарам.
- Штаны будуць менш забруджвацца ў вільготнае надвор'е, калі на абцасах зрабіць прорэз шырынёй і глыбінёй каля 4 міліметраў.
- Для асвятлення акварыума зручна выкарыстоўваць лабараторны фаталіхтар, замацаваўшы яго на краі сценкі. Калі мацаванне зрабіць на завесе, дык нахілам ліхтара можна мяняць інтэнсіўнасць асвятлення.
- Тым, каму даводзіцца шмат працаваць алоўкам, раім зрабіць просты і зручны трымальнік. На падстаўцы замацоўваецца стойка з магнітам. Алоўкі ўтрымліваюцца на магніце з дапамогай прышпіленых да іх канцылярскіх кнопак.

